

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА

ў АМЭРЫЦЫ

BULK RATE US POSTAGE PAID ADA, MI Permit No 47

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 2(26) Люты 1996 February Год выд. 4


## На пасаду спікера Вярхоўнага Савета /Парлямэнту/ Беларусі выбраны Спадар Сямён Шарэцкі...

**Сямён Шарэцкі, 59 гадовы лідэр Аграрнае партыі, паходзіць з Наваградчыны, мае дактарат эканамічных навук...**

Яго заступнікамі былі абраныя: Васіль Новікаў — камуніст, Генадзь Карпенка і Юры Малумаў...



Др. Марыя ДЭМКОВІЧ — ціхая і сьціплая працаўніца на ніве мэдыцынскае дапамогі Беларусі, мэцэнат, дабрадзейка і вялікая беларуская патрыётка.

Дарагая Марыя! Вітаем Вас на старонках нашае незалежнае беларускае газэты.

### *Чалавецтва чакаюць вялікія ўзрушэньні, бо сьвет уваходзіць у эпоху Вадалея*

Астралягічныя эры — гэта параўнальна сучасныя вобразы эпох, якія былі распрацаваны ў апошнія стагодзьдзі на падставе гістарычнага матэрыялу.

Так, у 6—4 тысячагоддзях да нашай эры, калі кропка вясенняга раўнадзенства супадала з сузор'ем Блізнят, было вынайдзена пісьменства. У 4—3 тысячагоддзях, у эру Цяльца, магутнага ў сферы матэрыі, пачалася выплаўка металу і былі створаны земляробчыя цывілізацыі, а ў самай старажытнай з іх, Егіпце, — не знішчаемыя часам піраміды. У 2-м тысячагоддзі да н. э., у эру ваяўнічага Авена, людзі вырабілі жалезную зброю і пачалася эпоха заваёўніцтваў, якая абвясціла ідэал незалежнасці чалавечай асобы. Яго вяржыняй стаў вобраз Хрыста — і наступныя дзве тысячы гадоў свет жыў ідэаламі хрысціянства. Пункт пачатку вясны ў гэты час знаходзіўся ў знаку Рыб. Праз некалькі гадоў, на пачатку будучага тысячагоддзя, свет уступіць у эру Вадалея, папярэднікамі якой з'явіліся навукова-тэхнічны прагрэс, а таксама ідэі свабоды і роўнасці людзей.

А пакуль жа 12 студзеня гэтага года адбудзецца «прышэсце» Урана ў знак Вадалея, дзе ён прабудзе сем гадоў. Як лічаць многія астролагі, у прыватнасці П. Глоба, славянскія народы не будуць чужымі ў доме Вадалея. Менавіта на тэрыторыях нашых дзяржаў адбудуцца буйныя і падчас непрадказальныя змяненні.

Магутнае ўздзеянне Урана павінна прынесці ўсім народам планеты, а нам асабліва, палымянае дыханне Новай Эпохі — эпохі сапраўднага гуманізму, дэмакратыі, унутранай свабоды, сацыяльнай роўнасці і агульначалавечага братэрства. Да гэтых высот мы прыйдзем праз звяржэнне закаснелых устояў жыцця, эгаізму. Наступаючы час можа зрабіць гэта самым рэвалюцыйным шляхам.

Апошні раз Уран праходзіў праз Вадалей у 1912—1919 гадах. Сусветная вайна, рэвалюцыі ў Расіі, з'яўленне авіяцыі, развіццё аўтатранспарту, электрычнасці, вывучэнне радыеактыўнасці, тэорыя адноснасці, з'яўленне новых стыляў у мастацтве — гэта крокі Вадалея ў пачатку XX стагоддзя.

Ёсць надзея, што і на гэты раз сасуд Вадалея поўны да краёў. Чакаюцца адкрыцці ў галіне даследавання псіхічнай энергіі, матэрыяльнасці думкі, буйныя зрухі ў астранаўтыцы, касманаўтыцы, ядзернай фізіцы, медыцыне, электроніцы, сацыялогіі. Новая рэвалюцыя ў навуцы!

## Дэпутатам Вярхоўнага Савета XIII склікання выказваюць пажаданні:

### Мечаслаў ГРЫБ,

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання, дэпутат ВС трынаццатага склікання:**

— Хачу спадзявацца, што ў гэтым годзе і надалей кожная галіна ўлады — заканадаўчая, выканаўчая і судовая — будуць займацца сваёй справай. Сварыцца за ўладу няма ніякіх падстаў. Кожнай з іх хапае спраў, дзеянняў, паўнамоцтваў — няхай толькі працуюць: кожны на сваім месцы, і пры гэтым не перашкаджае іншаму.

Не сумняваюся: новы Вярхоўны Савет будзе рабіць усё, каб дасягнуць узгодненых дзеянняў, паразумення з выканаўчымі органамі ўлады, а таксама з Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь. Гэта будзе адзіна правільны падыход. У краіне крызіс, эканоміка развальваецца, і нам трэба разам шукаць выйсце з таго тупіка, у які мы трапілі. Аднак гэта аб'яднанне сіл і намаганняў можа і павінна адбыцца толькі на падставе абавязковага выканання Канстытуцыі і заканадаўства нашай маладой суверэннай дзяржавы. Нам трэба часцей сустракацца, абмяркоўваць надзённыя пытанні і праблемы, ісці адзін аднаму насустрач — і тады не будзе ў грамадстве процістаяння і канфрантацыі. Ніхто, акрамя нас саміх, не выведзе нашу дзяржаву з крытычнага стану, ніхто нічога проста так не дасць — трэба разлічваць толькі на саміх сябе, на пошукі і ажыццяўленне ўзаемавыгадных пагадненняў.

У першыя дні работы парламента новага склікання нам трэба будзе вырашыць нямала важных і адказных пытанняў. Найперш — абраць Старшыню Вярхоўнага Савета і яго намеснікаў, членаў прэзідыума, сфарміраваць пастаянныя камісіі. Інакш кажучы, выбраць тыя органы, без якіх Вярхоўны Савет працаваць не можа. Па-другое, трэба разгледзець кадравыя пытанні, якія вынікаюць з указаў Прэзідэнта: маецца на ўвазе зацвярджэнне на сваіх пасадах некаторых намеснікаў прэм'ер-міністра, кіраўнікоў сілавых структур, прыняцце адстаўкі іх папярэднікаў. Пасля, я мяркую, неабходна будзе ўнесці змены ў заканадаўства аб падаткаабкладанні, разгледзець праект бюджэту на 1996 год. Аднак, наколькі мне вядома, выканаўчая ўлада не мае намеру перагдядаць падаткі, і бюджэт у асноўным сфарміраваны на аснове ранейшых падаткаў. Але ж вы ведаеце, наколькі яны недасканалыя, непамерныя, ды і крытыкуюць іх сёння літаральна з усіх бакоў...

### Яўген ЛУГІН,

**старшыня Сялянскай партыі:**

— Можна разлічваць, што Беларусь стане на шляхператварэння ў прававую дэмакратычную дзяржаву і пачне праводзіць пэўныя рэформы. Я лічу, што шляху назад не будзе, само жыццё ў нас паказала, што гэтае таптанне на месцы паглыбляе эканамічны крызіс. Цяпер ужо ва ўрадзе ёсць людзі, якія пачынаюць гэта разумець. Напрыклад, міністр сельскай гаспадаркі Ляонаў лічыць непазбежным рэфарміраванне калгасаў... Адыгрываюць сваю ролю і замежны фактар, асяроддзе, у якім мы знаходзімся: усюды рэформы праводзяцца, там, дзе яны пачаліся раней, яны ўжо далі пэўны плён. У Чэхіі, Венгрыі, Польшчы людзі жывуць у 5—10 разоў лепш, чым у Беларусі, але мы не думаем, што яны ў 5—10 разоў працуюць лепш, чым нашы людзі. Значыць, не працуе сістэма. Аднак ёсць вялікі сацыяльны слой людзей, якім нявыгадныя гэтыя рэформы, якія карыстаюцца дзяржаўнай уласнасцю як прыватнай.

Я лічу, што фракцыя «Грамадзянскае дзеянне», у якую ўваходзіць і БСП і якая мае значную колькасць вядомых і адукаваных палітыкаў, можа выступіць у ролі генератара ідэй у Вярхоўным Савеце. І калі пераважная большасць парламентарыяў жадае карысці роднай Беларусі, то яны павінны падтрымаць лепшыя напрацоўкі, прыняць адпаведныя законы і пачынаць дзейнасць па рэфарміраванню эканомікі.

### Уладзімір ЗАБЛОЦКІ,

**дэпутат Вярхоўнага Савета XII склікання:**

— Па-першае, я хацеў бы ўсіх павіншаваць з тым, што сесія адбываецца, што дэмакратычная плынь у рэспубліцы ўсё ж перамагла, і я спадзяюся, што Вярхоўны Савет будзе выконваць Канстытуцыю, законы і свае канстытуцыйныя абавязкі. Я маю надзею, што гэты састаў парламента зробіць усё, каб закон выконваўся ўсімі. Па-другое, лічу, што трэба падкарэкціраваць Канстытуцыю, замацаваць у ёй, што дзяржаўная ўласнасць належыць народу, бо адмена Канстытуцыйным судом артыкула 10 Закона «Аб Вярхоўным Савеце» выклікае прававое бязмежжа. Гэта вельмі важнае пытанне. Акрамя таго, трэба зрабіць так, каб дзяржаўны сектар у эканоміцы працаваў на роўных умовах з недзяржаўным. Дзяржаўная ўласнасць і капітал павінны прыносіць прыбытак уласніку — народу. Па многіх разліках, прыбытак ад уласнасці дзяржавы складае каля 50 працэнтаў бюджэту. І гэта трэба ўлічваць пры падатковай, бюджэтнай палітыцы, развіваючы рынкавыя адносіны і прыватызацыю. Аб гэтым працэсе трэба будзе значна мяняць уяўленні, і хацелася б, каб ва ўсім гэтым новы састаў парламента разабраўся. Патрэцяе, трэба было б выкарыстаць той патэнцыял і вопыт, які набыты саставам XII склікання. Перадаваць ёсць што.

**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.

Phone: (616) 942-0108; Fax: (616) 942-6364

Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

Аляксандр ДУБКО:

## «ВЫБАРЫ Ў НАС БЫЛІ АРГАНІЗАВАНЫ ТАК, ЯК І Ў ІНШЫХ АБЛАСЬЦЯХ»

***Учора «Звязда» паведамляла аб тым, якое складанае становішча склалася ў Гродзенскай вобласці ў сувязі з несфарміраваннем там пасля выбараў 10 снежня абласнога і многіх гарадскіх Саветаў, а таксама невыбраннем большасці дэпутатаў ад Гродна ў Вярхоўны Савет. Сёння «Звязда» папрасіла пракаменціраваць гэтую сітуацыю старшыню Гродзенскага аблвыканкома Аляксандра ДУБКО***

**— Аляксандр Іосіфавіч, чаму, па-вашаму, атрымалася так, што Гродзеншчына правяла выбары ў Вярхоўны і мясцовыя Саветы горш за ўсіх, што дало такі негатыўны вынік, як несфарміраванне ў вас Саветаў?**

— Мяркую, што трэба ўлічваць наша геаграфічнае і палітычнае месца ў рэспубліцы. Да гэтага трэба аднесціца вельмі ўважліва. У нас больш, чым у іншых абласцях, прадстаўнікоў розных нацыянальнасцей, палітычных плыняў і кірункаў. Палякаў, напрыклад, у нас 28 працэнтаў, а калі дадаць змешаныя сем'і, то гэты працэнт дойдзе да 42. Блізкасць Польшчы і розніца эканамічнага становішча ў нас і ў Польшчы, якая нашым жыхарам вядома, бо ў іх ёсць родзічы за мяжой, дзейнічаюць спрошчаныя пагранічныя пераходы — гэта таксама паўплывала. Людзі ацэньваюць вынікі дзейнасці ўладаў па эканамічнаму стану і, як я лічу, многія страцілі веру ў Вярхоўны Савет мінулага склікання, яго праца была неактыўная... Дарэчы, і цяпер мы не вырашаем гэтай праблемы. Па праекту бюджэту на наступны год іншым абласцям інвестыцыі пад будаўніцтва дарог і інфраструктуры складаюць у сярэднім 80 мільярдаў рублёў, Гродзеншчыне ж даюць толькі 34...

**— І не будзе каму абараняць інтарэсы вашай вобласці ў парламенце, бо дэпутатаў ад Гродзеншчыны мала...**

— У нас ёсць 25 дэпутатаў, гэта менш чым ад іншых, але ж і вобласць наша найменшая па насельніцтву: у нас усяго 1 мільён 200 тысяч жыхароў, а ў Брэсцкай — 1 мільён 450 тысяч.

**— Аляксандр Іосіфавіч, а як выканаўчая ўлада садзейнічала правядзенню выбараў на Гродзеншчыне? Якія меры вы прымалі, разумеючы такую сітуацыю?**

— Мы ўсё рабілі для таго, каб выбары адбыліся: і агітацыю вялі, і накіроўвалі членаў выканкомаў у калектывы. Уласна, тым толькі і займаліся, што спрыялі правядзенню выбараў. Дарэчы, ад Гродна ўсё ж ёсць адзін дэпутат у Вярхоўным Савеце — В. Ражко, галоўны ўрач абласной бальніцы, ёсць дэпутат і ад Ліды... Таму лічу, будзе каму абараняць інтарэсы рэгіёна. Мы збяром гэтых дэпутатаў і выкажам пажаданне, каб яны былі такой манеўровай групай, каб адстойвалі і беларускія інтарэсы ў цэлым, і гродзенскія... Я заяўляю адназначна, што выбары ў нас былі арганізаваны так, як і ў іншых абласцях.

**— Асабліва хвалюючая сітуацыя з гродзенскімі абласным і гарадскім Саветамі, якія не сфарміраваны. Што вы мяркуеце рабіць у сувязі з гэтым?**

— Я буду ў бліжэйшы час размаўляць са старшынёй Цэнтрвыбаркома А. Абрамовічам, і мяркую, што мы маем права на нашым узроўні вырашаць гэтую праблему, нашай абласной тэрытарыяльнай выбарчай камісіяй. У аблсавет нам не хапае 4 чалавек, у гарадскі ўвогуле абраны ўсяго адзін дэпутат. Мы прааналізуем тыя праколы, якія здарыліся... І будзем праводзіць мясцовыя выбары яшчэ раз. Што датычыць выбараў дэпутатаў Вярхоўнага Савета; то гэта не ў нашай кампетэнцыі, тут рашэнне будзе за Цэнтрвыбаркомам і новым Вярхоўным Саветам.

**— Аляксандр Іосіфавіч, некаторыя звязваюць выпадак самазабойства начальніка ўпраўлення аховы здароўя Гродзенскага аблвыканкома В. Белазёрцава, які адбыўся ў ноч з 10 на 11 снежня, з выбарамі. Ці ёсць тут нейкая сувязь, на ваш погляд?**

— Ні ў якой ступені гэта не звязана з выбарамі. На мой погляд, гэта такі цікавы чалавек быў, але проста ці то ён не прыдаў гэтаму значэння, ці то нейкі стрэс атрымаў падчас выбараў, бо быў членам выбарчай камісіі, і проста не падумаў пра месца і дату свайго ўчынку. Ён нас вельмі засмуціў, хаця ў перадсмяротнай запісцы ён і прасіў прабачэння. Тут нешта здарылася, што яго змусіла пайсці на такі крок, да таго ж ён быў моцна п'яны...

**— Запіска яго была адрасавана асабіста вам. Што ён пісаў у ёй?**

— Прасіў прабачэння, што падвёў, пісаў, што больш не можа цярпець разбору, што яго падвялі яго падначаленыя. У Белазёрцава сапраўды былі непрыемнасці па службе.

Размаўляў **Валер КАЛІНОЎСКІ.**

"ЗВЯЗДА"

---

Акадэмік - "савок" У. Платонаў, вярнуўся пад зялёны сьцяг...

Нядаўна прэзыдэнт Беларусі прыняў акадэміка-эмігранта У. Платонава па ягонай просьбе. Акадэмік заявіў, паведамляе БЕЛТА, што гатовы працаваць у інтарэсах разьвіцьця навукі Беларусі, бо гэтаму садзейнічае палітычная і маральна-псыхалагічная абстаноўка, што складаецца ў краіне. Вяртаньне блуднага патрыёта адтуль, адкуль не вяртаюцца, у такім выпадку становіцца цалкам зразумелым.

---



# "Сімвалы таму і ёсьць гістарычныя, што да іх вяртаюцца"

ЛіМ, 29 снежня 1995 г.

***Нядаўна ў друку з'явіўся ўказ прэзідэнта А. Лукашэнкі, згодна з якім павінна праводзіцца папулярызацыя тых герба і сцяга, што на травеньскім рэферэндуме 1995 года былі прыняты ў якасці новых. Пасля ўказа іх пачалі паказваць перад кожным выпускам навін, яны павінны з'явіцца ў кабінетах дзяржаўных службоўцаў, устаноўлены нават дзень Дзяржаўнага Сцяга й Дзяржаўнага Герба.***

***Але праект новай сімволікі не абмяркоўваўся ні шырокай грамадскасцю, ні людзьмі, якія маюць геральдычныя і вексілалагічныя веды.***

***Дык што ж наконт новай сімволікі думаюць спецыялісты? З гэтым пытаннем аглядальнік "ЛіМа" Аляксей Шэін звярнуўся да дацэнта кафедры археалогіі, этнаграфіі і дапаможных гістарычных дысцыплін БДУ, ганаровага сябра Усерасійскага геральдычнага таварыства, правадзейнага сябра Польскага й Украінскага геральдычных таварыстваў, аўтара шматлікіх кніг па гісторыі геральдыкі ("Гербы беларускіх гарадоў", "Гарадская геральдыка Беларусі", "Пячаткі старажытнай Беларусі" і інш.) сп. Анатоля Цітова.***

**— Сп. Анатоль, дзяржаўная сімволіка — гэта твар дзяржавы, тое, па чым яе пазнаюць іншыя народы. Яна даецца гісторыяй і ўбірае ў сябе ўвесь гістарычны шлях, пройдзены дзяржавай. Скажыце, ці было ў свеце калі-небудзь такое, каб пытанне дзяржаўнай сімволікі вырашалася на рэферэндуме?**

— Перш чым дайсці да гэтага пытання, трэба сказаць, што геральдыка — гэта навука, якая нарадзілася недзе ў 12 ст. і мае такія ж жорсткія законы, што і арыфметыка. Але ў нас усе чамусьці мяркуюць, што нельга быць спецыялістам у фізіцы, не вучыўшыся, а можна быць спецыялістам у геральдыцы (чаму мы і маем сёння адпаведныя вынікі).

А ў прынцыпе такіх прэцэдэнтаў, калі пытанне сімволікі вырашаецца на рэферэндуме, я не ведаю. Нельга зыходзіць толькі з таго, што "падабаецца — не падабаецца". Ёсць гісторыя, і тое, што нам памянялі сімволіку, спасылаючыся на думку народа —гэта ўвогуле некарэктная пастаноўка пытання. Да таго ж ішла масіраваная атака контрнацыянальных сіл, якія імкнуліся знівеляваць і знішчыць беларускую нацыянальную спадчыну й культуру.

Я нядаўна быў на IX Акадэміі геральдыкі, што адбывалася ў Кракаве, дзе я адзін рэпрэзентаваў Беларусь. І мне было вельмі непрыемна, калі падыходзілі калегі, асабліва са славянскіх краін, ды гаварылі: "Што вы, беларусы, зрабілі з вашым гербам? Вы ж на 6-ы ці 7-ы герб у Еўропе паводле ўзросту, а абралі сабе нейкую "капусту"?

Зараз наш гэты сімвал успрымаецца як сімвал таталітарнага рэжыму. Гэта нават нельга назваць гербам. Такая канструкцыя герба, акрамя як у нікім не прызнанай Прыднястроўскай Рэспубліцы, больш нідзе ў свеце не існуе. Нават тыя народы на постсавецкай прасторы, якія скокнулі з першабытнага ладу адразу ў сацыялізм, і то знайшлі ў сабе сілы, розум і збудавалі прыстойныя геральдычныя канструкцыі (напрыклад, якуты й чукчы). І толькі мы ды прыднястроўцы маем тое, што маем.

**— Але ж нешта падобнае існуе, памойму, у Таджыкістане?**

— Не, у Таджыкістане іншая пабудова герба. У нашым жа ёсць нават таўталогія — зямля ўнізе і зямля ўверсе. Калі б мы былі нейкай выспай у бязмежных прасторах акіяна — іншая рэч, быў бы сэнс.

А наконт такой канструкцыі... У лістападзе я ездзіў у Львоў. Там адбывалася V Міжнародная канферэнцыя па геральдыцы. Было крыху вольнага часу, і я працаваў у Львоўскім гістарычным музеі ды знайшоў пячатку гарадзенскага аддзялення масонскай ложы. Дык вось сваёй канструкцыяй яна якраз нагадвае наш сучасны герб.

**— Ці можна гаварыць аб нейкай гістарычнасці цяперашняй сімволікі?**

— Цяперашняя сімволіка не гістарычная. Гэта чыста палітычныя сімвалы. Нацыянальная сімволіка — яна адна.

Я ўжо гаварыў, што мы мелі 6-ы ці 7-ы па ўзросце герб у Еўропе. А Еўропа — гэта ўвогуле — радзіма геральдыкі, значыць мы мелі 6-ы ці 7-ы герб у свеце.

Другі момант. Сёлета палякі адзначалі 700 год польскага арла. Гэта былі вялікія святы, яны праходзілі пад патранажам прэзідэнта Валенсы й кардынала Глемба. А калі ўзяць Іпацьеўскі летапіс, то там сказана, што герб "Пагоня" быў абраны ў 1278 г. Праўда, тут магчымы нейкі хcraналагічны зрух. Лічыцца, што "Пагоню" абраў Віцень, а княжыць ён пачаў з 1295 г. Так што на гэты год прыпадаў 700-гадовы юбілей. Замест таго, каб адсвяткаваць гэты юбілей, мы яго зганьбілі і аплявалі.

**— Наколькі цяперашні герб стасуецца з геральдычнымі традыцыямі Беларусі і Еўропы?**

— Зноў жа паўтаруся. Гэта сімвал палітычнага рэжыму, такая сімволіка была ўведзена бальшавікамі.

Пяцікутная зорка — ўвогуле не еўрапейскі знак, а знак семіцкіх народаў. Шасцікутная — зорка цара Давіда, а пяцікутная — Саламона. Еўрапейскім народам яны былі не вядомыя і прыйшлі пад уплывам Бібліі. Найбольш характэрная фігура для еўрапейцаў — крыж.

**— А што можна сказаць пра новы сцяг?**

— Тут і гаварыць не хочацца нічога... Як ты ведаеш, "Пагоня" — гэта срэбны яздок у чырвоным полі. Паводле законаў геральдыкі і вексілалогіі, навукі аб стварэнні і гісторыі сцягаў, з кожнага герба можна стварыць сцяг. Адзін са шляхоў — калі колер эмблемы бярэцца за колер палотнішча, а колер поля герба бярэцца за паласу — так, як у нас — срэбнае палотнішча з чырвонай паласой. Польскі герб — срэбны арол на чырвоным полі — у іх крыху па-іншаму: верхняя частка срэбная, а дольная — чырвоная. Такая канструкцыя сцягоў, іх гарызантальная пабудова характэрна менавіта для паўночна-еўрапейскіх народаў. Для раманскіх народаў — італьянцаў, іспанцаў, французаў і г. д. характэрна вертыкальная пабудова сцягоў.

Што тычыць нашага чырвона-зялёнага, то ён больш адпавядае мусульманскай краіне, якая стала на шлях пабудовы сацыялізму. Некаторыя мне пярэчылі, што славяне балгары ў сваім сцягу маюць зялёную паласу, але ж гэта тлумачыцца тым, што балгары амаль 500 год былі пад мусульманскім уплывам. У нас такога не было.

Адзін з аргументаў прэзідэнта, калі ён вясной гаварыў пра змену сімволікі: "Паглядзіце, усё вакол у нас зялёнае". А сёння — вакол усё белае. Зноў сцяг мяняць?

**— Прэзідэнт сказаў, што зялёнае — сімвал адраджэння.**

— Сімвал адраджэння... У вексілалогіі што з'яўляецца галоўным? Людзі праз сімвалы абагаўляюць тое, чаго няма. Чаму для мусульман зялёны колер стаў найбольш узвышаным? Яны таксама трактуюць чырвоны як колер славы, багацця, крыві, мужнасці, але зялёны колер для іх найдаражэйшы таму, што ў аравійскіх краінах, дзе нарадзіўся іслам — вакол пустэльня. І калі яны бачаць зялёнае — гэта значыць аазіс, вада, ёсць жыццё. А ў нас?

Я думаю, разам з гэтым гербам знікне й гэты сцяг, бо ён поўнасцю пярэчыць гістарычным і геральдычным традыцыям Беларусі.

**— Вы не ведаеце, хто аўтар цяперашняй сімволікі?**

— Ведаю. У гэтым удзельнічала тры чалавекі, якіх я зараз называць не буду. Прыйдзе час, і паіменна назавуць "герояў", якія стваралі гэтую ганебную з пункту гледжання геральдыкі выяву.

**— Ці шмат існуе прыкладаў таго, калі дзяржава пасля змены рэжыму вярталася да сваіх гістарычных сімвалаў?**

— Сімвалы таму і ёсць гістарычныя, што да іх вяртаюцца. Напрыклад, гітлераўская Германія абрала свастыку як антысеміцкі сімвал, таму што свастыка не была вядома семіцкім народам. Само слова "свастыка" у перакладзе з санскрыту — "дабро будзе". Гэта сімвал агню, дабрыні, урадлівасці, сонца. Ёсць яшчэ другі сімвал — "суастыка", люстэркавая выява свастыкі, калі плечы крыжа заламаны ў іншы бок. Калі свастыка — сімвал мужчынскага пачатку, суастыка — жаночая. Гэтыя сімвалы зараз вельмі папулярныя ў Азіі, Індыі, былі вядомы і на Беларусі, што пацвярджаюць і археалагічныя раскопкі. Сімвал свастыкі ўжываўся як кляйно для адзначэння цэглы, рамесных вырабаў. Ёсць пячаткі беларускіх мяшчан, якія карысталіся гэтым сімвалам як сваім гербам, ёсць шляхецкі герб з выявай свастыкі — герб Барэйка.

Як толькі гітлераўскі рэжым пацярпеў паразу, Германія вярнулася да свайго спрадвечнага сімвалу — арла.

Навошта далёка хадзіць. Расія перайшла ад гвалтоўна навязанага бальшавікамі сярпа з малатком да двухгаловага арла. Украіна вярнулася да свайго трызуба. А хто не вярнуўся — дык гэта беларусы і прыднястроўцы.

**— Трэба спадзявацца, што да "Пагоні" мы ўсё-такі вернемся. У сувязі з гэтым я хачу спытацца, ці задавальняе вас выява "Пагоні", якая ў 1991 г. была прынята эталонам Дзяржаўнага герба? Ці, можа, нам трэба пайсці, напрыклад, летувіскім шляхам, не так натуралістычна вымалёўваць каня і г. д. І якім, на вашу думку, павінен быць крыж?**

— Вы якраз наступілі на балючае месца. Рэч у тым, што пры мінулым Вярхоўным Савеце я быў сябрам камісіі па геральдыцы. Там я прапаноўваў некаторыя свае праекты, але яны, на жаль, не былі прыняты. У той час я не хацеў выносіць смецце з хаты, аб чым зараз вельмі шкадую.

Мне здаецца, што мая канцэпцыя была больш правільнай. Яна заключалася ў тым, каб зрабіць "Пагоню" з яскравымі адмецінамі і не даць магчымасці антыбеларускім сілам палохаць народ: "Глядзіце, нас хочуць далучыць да Летувы!" Але мяне не зразумелі.

У мяне была прапанова зрабіць асобную міліцэйскую "Пагоню". Дарэчы, дзіўна, чаму — міліцыя. Міліцыя — гэта ўзброеныя атрады грамадзян, якія не знаходзяцца на дзяржаўнай службе, г. зн. іх занятак не прафесійны. Мы ж маем паліцыю, але нехта не хоча называць рэчы сваімі імёнамі. Дык вось, у мяне ёсць пячатка 1812 г. (найстаражытнейшая пячатка праваахоўчых органаў Беларусі — Мінскай паліцыі) з выявай "Пагоні", якая адрозніваецца ад таго ўзору герба, якім карысталася Рэспубліка Беларусь гэтыя нядоўгія чатыры гады. Трэба было ўзяць яе як міліцэйскую "Пагоню"; для вайскоўцаў трэба было зрабіць вайсковую "Пагоню". але нічога зроблена не было, таму што перамог курс на стандартызацыю й уніфікацыю. Былі, праўда, і пэўныя палітычныя прычыны: спрэчка магла завесці ў тупік, і тады ўвогуле нічога не было б прынята. Узровень геральдычных ведаў парламентарыяў быў вельмі нізкім.

А на сённяшні дзень, я мяркую, трэба шукаць свае адметныя рысы, трэба выкарыстоўваць тыя геральдычныя матывы, што ўласцівы Беларусі. Зараз іканаграфічнага матэрыялу шмат, можна ўзяць пячаткі Наваградчыны, Полаччыны, Брэстчыны, Піншчыны і на іх падставе рабіць свой герб.

Увогуле, я хачу сказаць, што летувіскі герб, т. зв. "Віціс" — гэта наш сімвал, які быў узурпаваны буржуазнай Летувой, якая падкрэслівала гэтым свае імперскія тэндэнцыі і прэтэндавала на тэрыторыю сучаснай Беларусі. Трэба адзначыць, што ў 1935 г. прэм'ер Летувіскай рэспублікі Тубаліс на сойме ў Коўне афіцыйна прызнаў не "літоўскае" паходжанне арыгінальнага герба. Але наступныя гістарычныя падзеі пайшлі такім чынам, што было ўжо не да гэтага, А калі ў 1990 г. яны абвясцілі незалежнасць, то вярнуліся да "Віціса", паказаўшы пераемнасць ад той Рэспублікі. Абранне летувісамі гэтага герба было некарэктным, таму што калі супаставіць геральдычныя й гісторыка-геаграфічныя матэрыялы, можна ўбачыць, што ён размяшчаецца толькі на тэрыторыі этнічных беларускіх земляў. Герб Жмудзі, сучаснай Летувы — мядзведзь.

Адна з крыніц паходжання "Пагоні" — культ св.св. Барыса і Глеба — аб гэтым яшчэ ніхто не гаварыў. Барыс — рыцар з мечам, а Глеб — рыцар з дзідай. Тут, праўда, атрымліваецца такая рэч: Барыс быў старэйшым братам, а мы маем герб Барыса. Масква ж мае герб "Яздок", які толькі ў сярэдзіне XIX ст. стаў афіцыйна называцца "Георгіем Пераможцам" (тапаграфія св. Глеба). Тады выходзіць, што мы—"старэйшыя браты".

**— З чым канкрэтна вы не былі згодны, калі распрацоўвалася "Пагоня"?**

— Я не быў згодны са статычнай падачай герба. Было шмат крытыкі (я, як сябра камісіі, не выказваўся) і крытыкавалі, дарэчы, у "ЛіМе" стваральнікаў эталона якраз за тое, за што можна было сказаць дзякуй.

Я прапаноўваў свой праект. Выява "Пагоні" на ім паходзіць з Наваградскай пячаткі 1565 г., а сам герб афіцыйна быў зацверджаны ў Статуце 1566 г. Адразу пасля прыняцця пастановы Сойма, калі Статут яшчэ не быў надрукаваны, яны зрабілі пячатку з рэнесансным шчытом. У маім праекце ён, у атачэнні двух зуброў, сімвалізуе тры Адраджэнні Беларусі. Усё гэта — у замкнёнай лініі беспярапыннасці жыцця, бел-чырвона-белай стужкі.

Постаці зуброў уведзены яшчэ й для адметнасці. Дарэчы, зараз, наколькі мне вядома, летувісы працуюць над гербам са шчытатрымальнікамі. Нас зноў выперадзілі. Тая ж самая гісторыя адбылася і з расфарбоўкай збруі. Мы хацелі зрабіць блакітную, але зноў аказаліся ў дурнях.

Вы паглядзіце на Вострую Браму ў Вільні. Там шчыт трымаюць два грыфы. Можна было ўзяць аднаго грыфа і зубра, я ж нічога не прыдумваю. Шчытатрымальнікі ў філасофскім плане — акова герба. Шмат прыстойных краін маюць падобныя гербы: Вялікабрытанія, Канада, Латвія, і г. д.

**— Вы гаворыце аб праекце Вялікага Дзяржаўнага Герба. Што гэта азначае?**

— Гербы падзяляюцца на тры віды: Вялікія, Сярэднія і Малыя. Вялікі Герб мае шчытатрымальнікаў і ўпрыгожванні. Карыстацца ім маюць права Прэзідэнт, Вярхоўны Савет і Прэм'ер-міністр. Міністэрствы карыстаюцца Сярэднім Гербам, а іншыя дзяржаўныя ўстановы — Малым.

Але галоўнае ў гербе — эмблема, якая на шчыце, а ўсё астатняе — "біжутэрыя".

Я думаю, што да канца гэтага стагоддзя ўсё павінна вярнуцца на "свае кругі", і нашым не толькі нацыянальным, але й дзяржаўным сімвалам зноў будзе "Пагоня". Хаця, магчыма, і ў іншай рэдакцыі.




Таццяна СТАХЕЙКА *(Мінск):*

*Нам бананы — не спакуса,*
*і не дзіва — кавуны!..*
*Каб не бульба, з беларуса*
*Ўжо даўно б спаўзлі штаны.*

# *14 мая і 10 сьнежня — два дні, якія ўскалыхнулі Беларусь*

ЗВЯЗДА

Гэтыя дзве падзеі адлюстроўваюць у сваёй супярэчлівасці нялёгкі поступ дэмакратыі ў новай незалежнай дзяржаве, і такі ж складаны лёс незалежніцкай ідэі ў нашай маладой дэмакратыі. Цяпер ужо можна з упэўненасцю сказаць, што палітычны сэнс рэферэндуму быў не ў адмаўленні ад гістарычнай сімволікі і не ва ўціску беларускай мовы, як бы гэта нам прыкра ні было, а ў трывалым усталяванні палітычнай ініцыятывы ў руках А. Лукашэнкі. 15 мая, пасля ўдалага для яго галасавання, Прэзідэнт атрымаў карт-бланш і скарыстаўся ім, паставіўшы краіну дэфакта перад прамым прэзідэнцкім кіраваннем. Дэ-юрэ гэта не сталася толькі дзякуючы выніковым выбарам 10 снежня. Аднак менавіта рэферэндум з яго вынікамі застаецца галоўнай палітычнай картай у руках Прэзідэнта ў яго магчымым супрацьстаянні з новым Вярхоўным Саветам. Апіраючыся на чацвёрты пункт рэферэндуму, які таксама быў падтрыманы большасцю выбаршчыкаў, хоць і меў толькі рэкамендацыйны характар, кіраўнік дзяржавы можа нават паспрабаваць распусціць парламент, ці, прынамсі, — прымусіць яго быць больш паслухмяным і абачлівым. З другога боку, вынікі рэферэндуму (без чацвёртага пункта) могуць паслужыць капіталам і для левай адноснай большасці ў новым парламенце, што ў многім прагне вяртання савецкіх парадкаў і канфедэрацыі з Расіяй. На гэтым Прэзідэнт і левая частка парламента могуць знайсці свой кампраміс. Такім чынам, рэферэндум 14 мая як палітычная з'ява можа перайсці і ў 1996 год. Не гаворачы ўжо пра тое, што будуць адчувальныя яго наступствы, звязаныя з моўнай палітыкай і ідэалогіяй.

Выключным па супярэчлівасці дэмакратычнага працэсу быў вынік рэферэндуму па моўным пытанні. Для іншаземцаў гэта выглядала фантастычна: большасць нацыі дэмакратычным шляхам выракалася сваёй мовы і штурхала яе ў занядад. Згодна з апошнімі звесткамі Мінадукацыі, у першыя класы Беларусі з беларускай мовай навучання сёлета пайшло 37,9 працэнта дзяцей, у той час як летась такіх было 75,3 працэнта. На Мінску паказчык гэты ўпаў з 58 да 19,5 працэнта. Каля трэці другакласнікаў, што вучыліся летась па-беларуску, былі пераведзены на рускую мову, тое ж самае адбылося са значнай часткай трэцякласнікаў, чацвёртакласнікаў... Натуральна, усё адбывалася па волі бацькоў і ведамасных інструкцый. Тым больш балюча ўсведамляць гэты рэзкі пералом у грамадскай свядомасці пасля 14 мая 1995 года. Ці зможа наша грамадства ў наступныя гады адысці ад яго? Верагоднасць вельмі малая, бо нават у новым Вярхоўным Савеце людзі, якія гатовы адстойваць правы беларускай мовы, у дэфіцыце.

Разам з моўнай праблемай востры сімвалічны сэнс мела і змена дзяржаўных сцяга і герба, якая ў многім абазначыла зрух да рэстаўрацыі бальшавіцкіх парадкаў. Прычым гэта стала сігналам не толькі для нашых людзей, але і для замежжа. За мяжой, асабліва нашы блізкія суседзі, успрынялі чырвоны сцяг над Беларуссю вельмі насцярожана, усведамляючы гэта як адкрытае адступленне ад руху да дэмакратыі ў заходнім яе разуменні. Між іншым, гэта было ў нас зроблена зноў жа дэмакратычным шляхам, толькі вось дэмакратыя наша згубіла свой агульнапрынятым змест, стаўшы толькі інструментам прыняцця рашэнняў некваліфікаванай большасцю, падатлівай на абяцанні, і ўціску кваліфікаванай меншасці. Заходнія дэмакратыі ішлі да ўсеагульнага выбарчага права доўгія гады, абмяжоўваючы яго рознымі цэнзамі, мы ж узялі дэмакратычныя інстытуты непадрыхтаванымі як грамадства і вымушаны настройвацца ўжо на хаду...

Шляхам спроб і памылак быў абраны ў канцы 1995 года паўнамоцны Вярхоўны Савет. Калі ўспомніць сітуацыю ў нашай краіне, што склалася напярэдадні першага і асабліва другога тура галасавання паўторных выбараў, дык прыход выбаршчыкаў да урнаў і абранне імі прадстаўнікоў ліберальных і сацыял-дэмакратычных партый можна ацаніць як пэўны зрух у свядомасці грамадзян. Людзі агледзеліся і зразумелі небяспеку простых рашэнняў складаных праблем, небяспеку адзінаўладдзя. У цэлым выявілі пэўную жыццяздольнасць структуры грамадзянскай супольнасці, што пачалі ў нас фарміравацца пасля 1991 года. Яшчэ будзе доўгі і складаны шлях для іх замацавання, для стварэння балансу дзяржаўных структур і інстытутаў грамадзянскай супольнасці. Сёння ж мы бачым, што крочыла далей ідэя шматпартыйнасці — у новым Вярхоўным Савеце прадстаўлена больш дзесятка партый, прадстаўлены розныя групы і інтарэсы. У наступным годзе мы будзем сведкамі ўсталявання вышэйшага прадстаўнічага органа дзяржавы, аднак як бы яно ні ішло, новы парламент вымушаны быць рэальным стабілізатарам нашага палітычнага жыцця — як унутранага, так і знешняга. У нашай краіны з абраннем парламента з'явіўся шанц не толькі захаваць канстытуцыйнасць у дзяржаўным будаўніцтве, але і прадоўжыць падступы да інтэграцыі ў еўрапейскія структуры. Не выпадкова была так шчыра ўсцешана вынікамі галасавання наглядальнік ад Еўрасаюза Элізабет Шродтэр, якая займаецца сувязямі з нашай краінай у гэтай важнейшай еўрапейскай структуры. Цяпер мы можам разлічваць на ратыфікацыю нашага пагаднення з ЕС і адпаведнага ажыўлення эканамічнага супрацоўніцтва. З'явіўся ў Беларусі і шанц на прыхільны разгляд нашай заяўкі на прыняцце ў Савет Еўропы, якое можа адбыцца, хутчэй за ўсё, пасля ўступлення туды Расіі. Праўда, новы Вярхоўны Савет павінен пацвердзіць гэтую заяўку... Аздараўленне эканомікі, рэформаў, надзейная сацыяльная абарона — гэтыя і шмат яшчэ якія іншыя спадзяванні мы ўскладаем на новы Вярхоўны Савет, абранне якога нечакана стала самай значнай і жаданай падзеяй адыходзячага года. З гэтым настроем мы і ўваходзім у новы 1996 год, які, несумненна, таксама будзе багаты на яркія палітычныя падзеі.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

У нашай вёсцы сення свята,
Мы закоцім пір гарой.
Бо абралі дэпутата...
Хоць дурны, затое свой.

Ведама, што дурням закон ня пісан, але што рабіць, калі законы пішуцца "дурнямі"? "Рэсб."

## BELARUS
### *Priests expelled*

Catholicism denounced as a foreign influence

President **Aleksandr Lukashenka** of Belarus is stepping up his campaign against the Catholic Church, which, he maintains, represents political influences hostile to Belarus' "natural" tendency to unite with Russia.

Lukashenka's decree "On the activities of foreign clerics on the territory of Belarus," issued in July, is being implemented with some vigor. Under these rules, foreign clerics visiting Belarus have to register with the local authorities, and are not allowed to conduct public religious services without permission.

By the end of October it was reported (unofficially) that 30 Polish Catholic priests had been expelled from Belarus for being in breach of its provisions. But when Cardinal Kazimierz Swiatek, head of the Roman-rite Catholic Church in Belarus, raised the matter with top officials—Alaksey Zhylski, the head of the Council on Religious Affairs, and also Alexander Hurko, the member of the president's team responsible for humanitarian matters—he was told that no "final decision had been taken" although one would probably be reached shortly. There would be no deportations, Zhylski said; everything would be done "quietly" and "without scandals." But if any priest acted outside the framework of the law, his stay in Belarus would not be extended.

The independent Belarusian newspaper *Svaboda* (Freedom), which itself faces a hard struggle to survive the president's repressive press laws, places no credence in Zhylski's assurances. The deportations, it maintains, have already started. A recent issue reported the case of Father Edvard Loyeka, the parish priest of Zhdrashau who had been ordered back to Poland after holding a religious procession, allegedly without the permission of the authorities. In Harodnia province, just across the border from Poland, some 20 visiting priests, *Svaboda* says, have been warned by the local authorities that they have no right to say Mass in churches.

The Polish Church, it must be admitted, has to a certain extent played into the president's hands. Immediately after Belarus became independent, dozens of Polish priests began arriving on tourist visas—and immediately starting to engage in pastoral work. Even at that time, when the new rulers of Belarus had no particular religious ax to grind, this influx caused some embarrassment. A large body of opinion in the Polish church regards Belarus as its missionary "backyard" and claims that Belarusian Roman-rite Catholics are Poles who have forgotten their ethnic identity. The influx of Polish clerics inevitably evoked old fears that Poland might still lay claim to the western territories of Belarus which formed part of the Polish state before World War II. And, however well-intentioned these missionary "tourists" were, the fact remains that they were undoubtedly in technical breach of the immigration regulations.

*—Vera Rich*

THE CATHOLIC WORLD REPORT, January 1996

# The Saint of Chernobyl

THE OTTAWA CITIZEN
December 30, 1995

**By Don Campbell**
Citizen staff writer

Joanne Survilla's legacy of helping had its beginnings 50 years ago as an eight-year-old girl, forced to flee with her family from war-torn Belarus.

Amid a backdrop of bombings and killing in the streets, her family took 15 minutes to decide to make a run for it, and they did not rest until they reached safety in Denmark.

There, they were befriended by a Danish family, who gave the youngster a taste of some of the better things in life, things not normally granted to refugees. Two years later, the family matriarch made one simple request of Joanne.

"She said 'The only thing I can ask of you is that when you get older, you do the same for someone else.'"

Fifty-one years later, it seems a promise made is a promise kept.

Survilla is the tireless, some say obsessed, leader of the Canadian relief effort for victims of the Chernobyl nuclear disaster in Belarus. The organization — officially called the Canadian Relief Fund for Chernobyl Victims in Belarus — brings children from Belarus to Canada each summer to give them time to rebuild their immune systems. The organization also ships needed medical supplies to assist others back home.

"I like challenges," says Survilla, 59, who by day works as a translator for the federal government. "But this is not a hobby. It is part of our lives. I can't ever imagine giving it up. When you feel so much need, you just have to keep going."

Her husband, Janka, a retired economist and also a native of Belarus, prefers to stay in the background, manning the homefront in Hull.

Elder daughter Hanna keeps track of her mother from her own home in Paris, while younger daughter Maria-Paula is completing studies in Iowa and about to make the Survillas grandparents for a second time.

"I am amazed to know how one lady could initiate this," says Anotoli Khramchenkov over the phone from Minsk, the capital of Belarus. Khramchenkov, a university professor, works on the Belarus end of the program.

"That she suffered so much as a young child has to be why she is so committed," says Khramchenkov. "Many people who did suffer left and did nothing more. Joanne is different. Her sincerity and dedication to the children is remarkable."

It's easy to understand how Survilla landed her "real" job when you know that as a young woman she mastered eight languages — Scandinavian, Belarussian, Danish, German, French, Polish and Latin and English.

> *"This is not a hobby. It is part of our lives. When you feel so much need, you just have to keep going."*
>
> — JOANNE SURVILLA

Survilla had already studied in five different languages before she hit secondary school.

She and her husband met in France and married. They were living in Spain in 1969 when her husband recommended she answer an ad placed by the Canadian government, looking for translators. It has been a love affair with Canadians ever since.

"What Canadians share is not found everywhere in the world," she says. "The generosity of Canadians is amazing."

One date in history changed her life, however. She recites it the way others remember birthdays, anniversaries or the date John Kennedy was shot.

*April 26, 1986:* the Chernobyl nuclear disaster in Ukraine.

In the early hours of that day, an explosion destroyed the number four reactor at the Chernobyl nuclear power station in Ukraine, sending flames about 65 metres in the air.

The human cost was 30 dead in the first few months. But the experts would soon rule that pregnant women were at risk for being exposed to the radiation. The cleanup cost has been put at somewhere close to $2 billion.

And 70 per cent of the radioactive fallout is believed to have fallen on Belarus, a small country north of the of the Chernobyl accident site.

It would be three more years before Survilla began to learn, along with the rest of the world, the enormity of the tragedy, but the early signs were shocking.

New-born children with birth defects. Youngsters, seemingly healthy, dying suspiciously. Adults dead in their early 40s. Twenty-five per cent of the present population of 10 million in Belarus, including 800,000 children, live in an area affected by 70 per cent of the fallout from Chernobyl.

In September 1989, she made a decision that she would organize a Canadian effort modelled after programs already started elsewhere in the world. Like the others, children were to become the focus.

By 1991, the group's initial effort brought 79 children to Canada, mainly to the Ottawa area. Last year, the number was 410, a total the group is sure to match or surpass in 1996. While the program has chapters in 23 counties, Canada's is easily second-largest, behind only Germany.

And front and centre is Survilla. Her position as president suggests she should be delegating work, but she cannot pull herself away from the day-to-day involvement. Where other volunteers have had to pull back or drop out of the organization because of burnout, Survilla charges ahead, sometimes against her best judgment.

"She motivates us to go above and beyond because there are times when you feel you have given it everything, then you see her effort," says Jim Baldwin, minister of the Munster, Ashton and Prospect United Churches and a volunteer in the Belarus program. "There are times we have seen her drained because she gives the program everything she has.

"Her advantage is, she knows the life the children come from better than we can all understand. She was there, just in a different time."

While her work for the children of Belarus is high-profile, Survilla has other burning passions.

"If I had a choice I would have devoted my life to painting," says Survilla, who studied art at Sorbonne University in Paris.

Her art has been the subject of several solo exhibitions and part of many other larger exhibits, including several recognizing women artists.

But there was an eight-year period where Survilla could not bring herself to paint.

"(After Chernobyl) it was like part of my world had fallen apart," she says. "Art didn't seem to have much meaning. The inspiration to paint was gone."

It wasn't until a trip to Belarus in 1992 to attend a "World After Chernobyl" conference that her desire came back.

"What she does comes right from the heart," says Khramchenkov. "What she is really doing is creating rays of sunshine through the cloud that has hung over Belarus for far too long."

### Unpaid Bills

Who owes the most to the United Nations' regular budget, peacekeeping operations and international tribunal, as of Nov. 15.

| Contributors | In millions |
|---|---|
| United States | $1,261.9 |
| Russia † | 478.8 |
| Ukraine | 228.9 |
| South Africa | 118.9 |
| France | 108.7 |
| Belarus | 58.7 |
| Italy | 48.0 |
| Iran | 24.8 |
| Germany | 22.0 |
| Spain | 19.8 |
| China | 17.0 |
| Poland | 16.1 |
| Japan | 15.9 |
| Yugoslavia | 14.6 |
| Belgium | 14.6 |
| Saudi Arabia | 14.3 |

### PRIVATIZATION PROGRAM FOR 1996 APPROVED IN BELARUS

On the eve of the New Year the President of the Republic of Belarus approved the Corporatization and Privatization Program for 1996. The Program opens the door to restructuring of major enterprises and sets the target to strengthen and push forward the structural adjustment and systemic transformation process so as to achieve better economic perfomance.

The Program gives equal rights to all individuals and legal entities, including foreign investors, to buy shares of public assets of corporatized enterprises and to be incorporators of these enterprises. They are also granted equal rights to bid for public enterprises to be sold at auctions.

While providing for consummation of the voucher privatization in the current year, the Program gives an urgent priority to cash privatization. To give an impetus to a new private owner of a former public asset to expedite his business the Goverment can rebate to a new owner 50 percent of a purchase price.

The Corporatization and Privatization Program was made public through the mass media of Belarus

*Embassy of Belarus to the United States of America*

### Belarusian President on Re-election

Alyaksandar Lukashenka has said he plans to run for re-election in 1999, Interfax reported on 23 January.

Prime Minister Mikhail Chihir, in an interview with Belarusian TV on 25 January, said enterprises owe workers over 320 billion Belarusian rubles ($27.8 million) in back wages.

# ДОМ БАЦЬКОЎСКІ ПАВІНЕН БЫЦЬ АДКРЫТЫ ДЛЯ ЎСІХ СЫНОЎ І ДАЧОК



**Ганна СУРМАЧ,**
**старшыня Рады Згуртавання беларусаў свету**

**Характэрнай асаблівасцю жыцця нашай краіны ў апошнія гады стала прысутнасць у ім той часткі нацыі, якая па волі складанага лёсу апынулася па-за межамі Бацькаўшчыны. Беларуская дыяспара, як мы цяпер называем замежную беларускую грамаду, жыве сваімі клопатамі. Але ўсіх замежных беларусаў аб'ядноўвае агульная цікавасць да тых падзей, якія адбываюцца ў Беларусі. І кожны год яны сустракаюць з новымі надзеямі на добрыя перамены на радзіме і ў канцы яго падсумоўваюць перажытае, спрабуюць прааналізаваць, разабрацца ва ўсіх нашых агульных праблемах. Што зараз хвалюе замежных беларусаў, якімі думкамі і спадзяваннямі яны жывуць напярэдадні Новага года? Пра гэта можна было даведацца на сустрэчы кіраўнікоў беларускіх замежных арганізацый, што адбылася ў Мінску 11-12 лістапада 1995 года.** **ЗВЯЗДА**

Людзі прыехалі з розных канцоў свету, каб пабыць на Радзіме, падыхаць яе жыватворным паветрам, пабачыцца з роднымі і сябрамі, «адчуць плячо адзін аднаго», як вобразна сказаў Пятро Малафей з літоўскага горада Шальчынінкай. Сапраўды, кожны такі збор дае маральную падтрымку нашым суродзічам, умацоўвае іх лучнасць з Беларуссю. Для іх гэта неабходнасць адчуць сябе часцінкаю нацыі, а не людзьмі без каранёў, перакаці-полем. Так ужо вядзецца ў свеце, што, трапіўшы на чужыну, чалавек больш востра адчувае сум па роднай зямлі, моцную повязь з ёю. І ў цывілізаваных дзяржавах прынята клапаціцца пра сваю дыяспару, дапамагаць ёй падтрымліваць пастаянную сувязь з радзімай. Гэта ёсць важны клопат дзяржавы. Вось і нашым суродзічам патрэбны ўвага і падтрымка. Аб гэтым гаварылі і большасць прысутных на сустрэчы прадстаўнікоў замежных суполак. Але нашы дзяржаўныя структуры вельмі мала значэння надаюць гэтай працы. Вядома ж, у сённяшні складаны час і грамадзяне ў самой Беларусі не адчуваюць моцнай падтрымкі дзяржавы. Бедная дзяржава не можа дапамагчы сама сабе, не гаворачы ўжо пра дыяспару. Гэтыя аргументы можна прызнаць слушнымі, але толькі з першага погляду. Мусім разумець, што гаворка ідзе пра людзей, пра чалавечыя лёсы, пра жыццё нашых суродзічаў, якое цячэ імкліва і не будзе чакаць, калі наступяць лепшыя часы. Непрывечаныя намі, гэтыя людзі паступова адыдуць ад няўважлівай радзімы, рассыплюцца ў людскім сусветным моры і будуць страчаны для нас як беларусы, што, безумоўна, збядніць нацыю.

Падтрымка дыяспары патрабуе не столькі вялікіх матэрыяльных затрат, колькі разумнага, разважлівага, цывілізаванага падыходу, пры якім і сама Беларусь магла б мець падтрымку ад свайго замежжа. А як робіцца ў нас?

Зараз найбольш складанае становішча ў беларусаў, што жывуць у раёнах былога СССР. Многія гады беларускія хлопцы і дзяўчаты накіроўваліся эшалонамі то на цалінныя землі, то на новабудоўлі Сібіры, БАМ, асваенне нафтавых радовішчаў, то на ўмацаванне кадраў у Сярэднюю Азію, Прыбалтыку, Каўказ. Многія з іх не збіраліся назаўсёды развітацца з радзімаю, а часова выязджалі на працу. Цяпер паўсталі межы, якія адрэзалі іх ад Беларусі. Ваенныя канфлікты, неспакой, нацыянальныя праблемы вымушаюць многіх вярнуцца дадому. У гэтай сітуацыі паспела неабходнасць распрацоўкі і прыняцця закона аб абароне правоў замежных беларусаў у Беларусі, дзе былі б вызначаны, найперш, статус замежнага беларуса і тыя адметнасці ў правах, якія адрозніваюць яго ад іншага замежнага грамадзяніна. Гэта пытанне важнае і для беларусаў, што жывуць у заходніх краінах.

Значнай праблемай стаў для большасці беларусаў блізкага замежжа візавы рэжым. Усталёўваючы яго з суседнімі краінамі, дзе пражывае значная колькасць беларускага насельніцтва (Літва, Латвія, Эстонія), Рэспубліка Беларусь не прадугледзела льготных умоў для сваіх суродзічаў. Каб наведаць бацькоў, нашы земляні павінны плаціць немалыя грошы. Расія гэта зрабіла для сваіх людзей, якія едзяць дамоў, у Расію, без усякіх візаў.

Не могуць зараз беларусы ў замежжы падпісацца на беларускі друк, не атрымліваюць цікавай для іх інфармацыі пра жыццё Бацькаўшчыны. З-за высокага кошту праезду вельмі рэдка выязджаюць у замежжа мастацкія калектывы дзеля таго, каб нашы суродзічы маглі паслухаць беларускую песню, роднае слова. Мноства іншых надзённых пытанняў цікавіць сёння замежную беларускую грамаду, якая складае прыкладна 3,5 мільёна чалавек і стварыла больш як 80 беларускіх арганізацый у розных краінах свету.

Але найбольш трывожацца сэрцы дачок і сыноў Беларусі як на Радзіме, так і ў замежжы пра далейшы лёс самой Беларусі як незалежнай дзяржавы. Адыходзячы год прынёс многа трывожных падзей, якія паставілі краіну перад пагрозай вяртання ў змрочнае мінулае. Замежныя беларусы выказваюцца супраць адмены нацыянальнай беларускай сімволікі, пад якою адрадзілася незалежная Рэспубліка Беларусь. Выступаюць яны і супраць узаконенага двухмоўя, з-за якога беларуская мова зноў пастаўлена на грань выжывання. Нашы суродзічы ў большасці жывуць у дэмакратычных краінах свету, і для іх непрымальныя некаторыя антыдэмакратычныя тэндэнцыі, якія паступова развіваюцца апошнім часам у Беларусі. Не падтрымліваецца там і палітыка, скіраваная на бязмежную інтэграцыю з Расіяй, што стварае рэальную пагрозу страты дзяржаўнай незалежнасці краіны.

Такая пазіцыя беларускай дыяспары выклікае негатыўную рэакцыю з боку некаторых кансерватыўных палітычных сіл у Беларусі. І зноў назіраецца вяртанне да былой палітыкі непрызнання эміграцыі, зноў замежных беларусаў прылічваюць да ворагаў. Усяго некалькі гадоў мінула, як Беларусь прызнала сваю дыяспару, адкрыла свае межы для раскіданых па ўсім свеце сваіх дзяцей, стала прымаць іх як сапраўдная маці. Няўжо хочацца некаму вярнуць тыя часы, калі беларускія эмігранты не мелі магчымасці прыязджаць на радзіму па 40—50 гадоў, не бачыць родных і блізкіх? Чаму сёння зноў ім адмаўляюць у праве мець сваю пазіцыю, сваю думку аб тым, якой яны бачаць сённяшнюю Беларусь? Так не павінна быць. Найлепш будзе для ўсіх нас, беларусаў, дзе б мы ні жылі, умець выслухаць адзін аднаго, знайсці паразуменне, агульны інтарэс дзеля захавання беларускай нацыі, існаванне якой сёння ва ўсіх адносінах знаходзіцца пад пагрозай.

Не так многа сёння ў Беларусі структур, якія працуюць з дыяспарай. І сярод іх — грамадская арганізацыя Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына». Мінулы год быў адметным для нас тым, што згуртаванню споўнілася пяць гадоў. За гэты час арганізацыя сцвердзіла сябе як самастойная структура, якая мае сваю дзялянку грамадскай працы на карысць беларускай справы. Галоўным вынікам нашай дзейнасці з'яўляецца тое, што за гэты час удалося наладзіць пастаянныя сувязі паміж Беларуссю і замежнымі беларускімі суполкамі. Дзякуючы гэтаму беларуская сусветная грамада здолела заарганізавацца ў адзіную сілу і правесці па ініцыятыве «Бацькаўшчыны» свой першы з'езд беларусаў свету ў 1993 годзе. Пачаў адбывацца працэс кансалідацыі нацыі. Але на шляху яго развіцця могуць паўстаць цяжкія перашкоды. Неспрыяльныя адносіны да беларускага замежжа ў сённяшняй Беларусі закранаюць і дзейнасць нашай арганізацыі.

Але ж ніякія цяжкасці не прыпыняць нашу працу. «Бацькаўшчына» будзе і далей дапамагаць нашым замежным суайчыннікам. Мы ведаем кожную беларускую суполку, кожнага чалавека, чыё сэрца цягнецца да Беларусі, мы маем адказнасць перад гэтымі людзьмі.

Наступны год будзе напоўнены новымі штодзённымі клопатамі. «Бацькаўшчына» рыхтуецца ўлетку правесці і вялікае мерапрыемства — другую міжнародную навуковую канферэнцыю «Культура беларускага замежжа». У канцы года пачнём арганізацыйную працу па падрыхтоўцы Другога з'езда беларусаў свету, які мае адбыцца ўлетку 1997 года. Спадзяёмся, што нашы планы спраўдзяцца, а перашкоды і цяжкасці сплывуць у нябыт і не спыняць няўмольны рух беларускай нацыі да свайго сапраўднага адраджэння і поўнага яднання.

Мы атрымліваем зараз віншаванні з Калядамі і Новым годам з розных краін свету ад замежных беларускіх суполак. Яны адрасаваны ўсім беларусам на Бацькаўшчыне. Карыстаючыся нагодаю, перадаю ўсім шчырым беларусам, патрыётам сваёй зямлі, самыя найлепшыя пажаданні ў новым годзе ад іх замежных суродзічаў. Усе яны найперш хочуць, каб заставалася і надалей роднай маці Беларусь для ўсіх яе сыноў і дачок, што жывуць дома і на чужыне.

# *Ці адбудзецца беларускі цуд?*

*"Народная Воля"*

Сенсацыі бываюць розныя. Адны — яркія, як бліскавіца маланкі, другія — някідкія, паступовыя, нібы світанак: спярша ледзь прыкметна святлее неба на ўсходзе, потым болей, болей і раптам — бляск сонечных прамянёў. Менавіта такая сенсацыя нараджаецца цяпер у прамысловасці Беларусі.

Група экспертаў па стратэгічнаму прагназіраванню аддзялення ААН па прамысловаму развіццю, у якую ўваходзілі спецыялісты Англіі, Германіі, Францыі, пасля доўгага і ўсебаковага вывучэння прамысловага патэнцыялу нашай краіны выклалі рэкамендацыі па перабудове індустрыі. На думку спецыялістаў, з якімі мне даваўся пагутарыць, у гэтай працы акрэслены прарыў беларускай прамысловасці да прагрэсу і на сусветны рынак. Такі самы, які ў свой час здзейснілі Японія, Малайзія, Турцыя. Так што тыя заводы, якія ніяк не можа "запусціць" Лукашэнка, аказваецца, можна хутка вывесці на еўрапейскі ўзровень. Чым не сенсацыя!

Але ці адбудзецца беларускі цуд? Я гартаю ўсе сорак старонак працы міжнародных экспертаў, і чым болей знаёмлюся з іх вывадамі, табліцамі і рэкамендацыямі, тым мацнее пачуццё, што, відаць, беларуская цуда не будзе. Не, прапанаваны праект на ўзроўні, але я баюся, што ў нашага кіраўніцтва не хопіць мудрасці і палітычнай волі дзеля яго ажыццяўлення. І прамысловасць Беларусі будзе і далей каціцца ў бездань крызісу альбо існаваць на еўрапейскіх "задворках".

Што ж прапаноўваюць вядомыя заходнія эксперты?

Спярша яны даюць агульную ацэнку стану беларускай індустрыі, і я думаю, што нашым чытачам яна будзе цікавай і карыснай. На іх думку, нашы прадпрыемствы някепскія, а кіраўнікі і інжынеры "валодаюць высокай кваліфікацыяй". Больш таго, "Беларусь мае ўражальны і абгрунтаваны імідж па выпуску якаснай і надзейнай прадукцыі электронікі і электратэхнікі. На шэрагу прадпрыемстваў удалося перайсці на выпуск канверсійных вырабаў, якія набліжаюцца да сусветных стандартаў у галіне якасці і дызайну. Словам, ёсць добрая база для скачка. Чаму ж яна не рэалізоўваецца? Што перашкаджае? Эксперты даюць такі адказ: няма вопыту работы ва ўмовах рынку, слабае веданне маркетынгу, невысокі ўзровень падрыхтоўкі камерцыйных работнікаў, адсутнасць фірменнай палітыкі (стылю) і неабходнага заканадаўства, сістэм забеспячэння якасці, вялікія падаткі, празмернае ўмяшанне ўлад у дзейнасць прадпрыемстваў, няўвага да структурнай перабудовы...

Некаторыя лічаць, падкрэсліваюць міжнародныя эксперты, што аднаўленне СССР дазволіць вярнуць былы высокі ўзровень вытворчасці і фінансавыя вынікі, але гэта памылковая думка. За апошнія гады расійскі рынак настолькі змяніўся, што ён ужо не мае патрэбы ў многай беларускай прадукцыі, якая стала састарэлай і непатрэбнай. І таму ў Беларусі адзін шлях — павышэнне яе якасці да сусветнага ўзроўню, для чаго варта ўзмацніць камерцыйныя службы і ажыццявіць структурную перабудову індустрыі.

Заходнія спецыялісты акрэслілі дакладныя шляхі для выхаду на сусветны ўзровень. Адзін з іх — стварэнне буйных прамысловых груп (карпарацый), а пры іх — кваліфікаваных службаў па вывучэнню рынкаў і канкурэнтаў, развіццю навуковых даследаванняў, стварэнню фірменнага стылю (вобраза) і абароны правоў на інтэлектуальную ўласнасць, а таксама арганізацыя міжнароднай сеткі камерцыйных прадстаўнікоў, перападрыхтоўка кадраў і г.д. У прыватнасці, яны прапаноўваюць стварыць аўтамабільную карпарацыю, у якую павінны ўвайсці мінскія аўтамабільны і трактарны заводы, жодзінскі БелАЗ, "Гомсельмаш", мінскі завод калёсных цягачоў і, магчыма, гомельскі ліцця і нармаляў, смаргонскі агрэгатны, магілёўскі аўтамабільны, мазырскі меліярацыйных машын і лідскі сельгасмашын. Такой кампаніі можна займець буйныя навуковыя і камерцыйныя падраздзяленні. На думку спецыялістаў, гэта карпарацыя магла б пацясніць расійскіх аўтамабілебудаўнікоў і заняць дастойнае месца ў Еўропе па выпуску вялікагрузных і звышмагутных грузавікоў, іншай аўтамабільнай тэхнікі.

Праект даволі заманлівы. Але ён, мабыць, ніяк не ўпісвецца ў канцэпцыю прэзідэнта. Нядаўна Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ "Аб стварэнні і дзейнасці ў рэспубліцы гаспадарчых груп", якім, на думку многіх, адкрыў шырокую дарогу на Беларусь расійскім прамысловым структурам. Вядомы эканаміст Аляксандр Лучанок лічыць, што прымаюцца меры да таго, каб расійскі капітал мог кантраляваць беларускую прамысловасць, а само з'яўленне такога ўказа сведчыць аб вельмі моцнай залежнасці нашых кіруючых структур ад Расіі. Эрудзіраваны спецыяліст Уладзімір Новік сцвярджае, што мэта ўказа — добраахвотна-прымусовае далучэнне беларускіх прадпрыемстваў да расійскіх. Сапраўдныя прычыны з'яўлення ўказа трэба шукаць у галіне палітыкі. Відаць, прэзідэнт вымушаны быў прымаць такое рашэнне пад націскам з расійскага боку. Калі ўказ будзе ажыццяўляцца, дык пачнецца паступовы пераход беларускай дзяржаўнай уласнасці ў валоданне расійскіх недзяржаўных структур.

Пры той практыцы, якую праводзяць нашы ўлады, беларускія заводы ўвойдуць у пэўныя расійскія карпарацыі ў якасці філіялаў ці даччыных прадпрыемстваў. Скажам, нашы аўтазаводы пад крыло маскоўскага "ЗІЛа", "Гомсельмаш" — растоўскага завода і г.д. Увесь кіраўніцкі, навуковы, камерцыйны патэнцыял, а значыць, і дзяленне "пірага" будзе ў Расіі.

Заходнія эксперты стратэгічнага планавання і прагнозу раяць ствараць уласныя, беларускія карпарацыі, у якія можна запрашаць у якасці партнёраў калектывы з Расіі, Украіны, Прыбалтыкі і г.д. Так што розніца тут істотная. Заходні праект перш за ўсё улічвае нацыянальныя інтарэсы Беларусі. Указ жа прэзідэнта грунтуецца на "брацкай дружбе з Расіяй", дзеля ўмацавання якой не варта шкадаваць уласных вытворцаў і можна паступіцца нацыянальнымі інтарэсамі.

Так што перспектыўны і стратэгічна выгадны заходні праект па карпарацыях, відаць, не будзе прыняты, а калі раптам і ўхваляць, дык пазней створаць такія ўмовы, што ён не зможа поўнасцю ажыццявіцца.

На мой погляд, прыкладна такі лёс можа чакаць і другія варты праекты міжнародных экспертаў, а іх аж дзесяць. Возьмем хоць бы той, які датычыцца стварэння прававой базы. Міжнародныя эксперты падкрэслілі, што без дакладных "правіл гульні", рыначнага заканадаўства нельга нават і думаць пра нейкае сучаснае развіццё эканомікі. Яны прааналізавалі існуючае заканадаўства аб прадпрыемствах і прыйшлі да вываду, што многія яго палажэнні маюць настолькі сур'ёзныя недахопы, што іх проста нельга палепшыць, а трэба мяняць. Акрамя таго, кіпучая дзейнасць прэзідэнта па выданню вялікай колькасці ўказаў стварае дадатковую непаслядоўнасць, неразбярыху і няякасці ў рабоце. Ды і законы прымаюцца для таго, каб іх усе вы-

(Заканчэньне на 7-й стар.)

## П. Краўчанка:

# «Беларускі народ мае права на кампэнсацыю за уран у ракетах тактычнага і стратэгічнага прызначэньня»

*З экс-міністрам замежных спраў Беларусі, дэпутатам парлямэнту Пятром Краўчанкам гутарыць карэспандэнт "Ітэрфакса" В. Зяньковіч.*



**Звязда**

**— Пётр Кузьміч! Не адно пакаленне дзяржаўных мужоў ламае галаву над пытаннем, адкуль узяць дадатковыя сродкі ў дзяржаўны бюджэт? У вас, як спецыяліста ў галіне міжнародных адносінаў, ёсць які-небудзь рэцэпт?**

— Так, ёсць. Узяць хоць бы праблему кампенсацый за уран, здабыты з выводзімых у Расію ракет тактычнага і стратэгічнага прызначэння.

31 ліпеня 1991 года прэзідэнты СССР М. Гарбачоў і ЗША Д. Буш падпісалі Дагавор аб скарачэнні стратэгічных наступальных узбраенняў (СНУ-1). Свет апладзіраваў гэтаму дагавору, паколькі яго падпісанне ў значнай меры зменшыла ядзернае процістаянне. У той час я нават не падазраваў, што аднойчы акажуся ў эпіцэнтры гэтых сусветных падзей і буду мець самыя непасрэдныя адносіны да праблем ядзернага раззбраення.

Ад імя Беларусі я падпісваў, у прыватнасці, сапраўды гістарычны Лісабонскі пратакол у маі 1991 года. Гэты дакумент даў магчымасць нашай рэспубліцы на 9 месяцаў дэюрэ стаць ядзернай дзяржавай.

Статус Беларусі як ядзернай дзяржавы мы не маглі і не збіраліся ўтрымаць. На мой погляд, гэта і не трэба было рабіць, паколькі рэспубліка была не гатова трансфармавацца ў ядзерную краіну. Стаць ядзернай дзяржавай нам проста не далі б пяць краін — членаў ядзернага клуба. А галоўнае, Беларусь не мела эканамічных магчымасцей утрымліваць уласную ядзерную зброю. Толькі падтрыманне ракет у належным тэхнічным стане патрабуе затрат у сотні мільёнаў долараў у год.

Беларусь стала першай дзяржавай у свеце, якая добраахвотна адмовілася ад права валодання ядзернай зброяй. Прычым зрабіла гэта свядома, без націску звонку.

Па сутнасці, ядзерную зброю, перш за ўсё тактычную, з Беларусі пачалі вывозіць пачынаючы з 1992 года. Мы падпісалі два пагадненні з Расіяй, якія прадугледжваюць канчатковы вывад ядзерных ракет з рэспублікі ў 1996 годзе. Тэрмін вываду некаторых дыслацыруемых у Беларусі часцей расійскіх войскаў стратэгічнага прызначэння вызначыўся 1998-м і нават 1999 годам. Прыкладна да двухтысячнага года Беларусь зможа набыць бяз'ядзерны статус.

На тэрыторыі рэспублікі размешчаны звышсучасныя ядзерныя ракеты класа SS-25. Яны вывозяцца на закрытыя ваенныя прадпрыемствы Расіі «Арзамас-2», дзе падвяргаюцца разукамплектацыі і дэмантажу. Вось тады з гэтых ракет і здабываецца так званы зброевы уран.

Як чалавек, азнаёмлены з многімі нюансамі, звязанымі з вывадам стратэгічных ядзерных ракет, адзначу, што пэўныя складанасці з выкананнем графіка іх транспарціроўкі ў Расію былі. Аднак цяпер яны пераадолены.

**— Што гэта за праблемы?**

— Існавалі пэўныя рознагалоссі паміж расійскім і беларускім бакамі ў адносінах да графіка вываду стратэгічных ядзерных сіл. Аднак, як чалавек, які з'яўляецца носьбітам дзяржаўных сакрэтаў, я не магу раскрываць падрабязнасці. Ракеты, якія апынуліся на тэрыторыі Расіі, — велізарны патэнцыял, велізарнае багацце. Сам па сабе уран мае велізарную каштоўнасць.

Вядома, што з ракет, якія падлягаюць ліквідацыі і знаходзяцца на тэрыторыі Беларусі, Казахстана, Расіі і Украіны, плануецца здабыць каля 500 тон зброевага урану. Згодна з дагаворам СНУ-1 гэты уран будуць купляць ЗША. Паводле ацэнак расійскіх экспертаў, сумарны кошт урану складзе 10—12 мільярдаў долараў ЗША.

**— Але ці мае права Беларусь прэтэндаваць на гэты уран?**

— Адназначна заяўляю, што мае, паколькі ядзерны патэнцыял Савецкага Саюза ствараўся з удзелам усіх народаў, якія ўваходзілі ў яго, падаткаплацельшчыкаў усіх рэспублік, у тым ліку і Беларусі.

У свой час маёмасць ліквідаванага СССР была раздзелена рэспублікам згодна з так званым «нулявым» варыянтам. Гэта значыць суб'ектам былога Саюза дасталося тое, чым яны рэальна валодалі на момант падпісання адпаведнага пагаднення.

На мой погляд, гэта формула не павінна прымяняцца, напрыклад, да раздзелу марскога флоту СССР і праблемы урану. Восенню 1992 года я ініцыіраваў адбмеркаванне гэтай праблемы на ўзроўні тагачасных Старшыні Вярхоўнага Савета С. Шушкевіча і прэм'ер-міністра В. Кебіча, але асаблівага энтузіязму мая прапанова не выклікала.

Хоць навуковы патэнцыял атамшчыкаў-тэарэтыкаў у Беларусі вялікі, у нас няма фізікаў-атамшчыкаў, якія спецыялізуюцца ў практычнай сферы. Вайсковыя фарміраванні, якія маюць на ўзбраенні ядзерную зброю, падпарадкоўваліся непасрэдна Маскве, а не камандаванню Беларускай ваеннай акругі. Перакананы, што нават нябожчык П. Машэраў, будучы першым сакратаром ЦК КПБ, не ведаў месцаў дыслакацыі каля 30 стартавых кропак ядзерных ракет на тэрыторыі рэспублікі. Аб гэтым ведала вузкае кола камандавання Міністэрства абароны СССР і палітычнае кіраўніцтва Савецкага Саюза. Нават я, будучы міністрам замежных спраў Беларусі, даведваўся пра некаторыя дэталі ад тагачаснага дзяржсакратара ЗША Д. Бейкера!

Таму, калі перад Масквой было пастаўлена пытанне аб магчымасці пачатку перагавораў па урану, аб вызначэнні нашай долі, прадстаўнікі Расіі толькі пасмяяліся над намі: маўляў, спачатку дакажыце, што вам што-небудзь вядома аб ракетах.

Але летам 1992 года на беларуска-расійскай сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў і кіраўнікоў урадаў у маскоўскім «Прэзідэнт-атэлі» сітуацыя змянілася. З санкцыі В. Кебіча ў час перагавораў я афіцыйна паставіў гэта пытанне перад прэзідэнтам Б. Ельцыным, прэм'ер-міністрам Я. Гайдарам і кіраўніком МЗС А. Козыравым. Мне ўдалося дабіцца ў Я. Гайдара падпісання пратакола, які афіцыйна прызнаваў існаванне праблемы «беларускага урану», здабываемага з ракет, выведзеных з тэрыторыі нашай рэспублікі. З беларускага боку пратакол падпісаў В. Кебіч. Хачу адзначыць, што тэкст гэтага дакумента быў складзены мной на працягу некалькіх хвілін непасрэдна ў «Прэзідэнт-атэлі». Пратакол быў сакрэтным, быў падпісаны ў адным экземпляры і захоўваўся ў мяне ў сейфе. Аб яго існаванні не ведаў ніхто, акрамя кіраўнікоў Беларусі і Расіі.

Пасля гэтага пачаліся зацяжныя перагаворы з Масквой. Расія рабіла ўсё магчымае, каб не канкрэтызаваць дыялог па гэтай праблеме.

Было ўстаноўлена, што доля Беларусі ў ядзерным патэнцыяле СССР складае 10—15 працэнтаў. Такім чынам, наша рэспубліка можа прэтэндаваць прыкладна на 1—1,5 мільярда долараў ЗША. Адзначу, што гэта сума не можа паступіць у Беларусь за адзін раз. Лічу, што грошы рэальна атрымаць на працягу бліжэйшых сямі-васьмі гадоў. Гэта тлумачыцца працягласцю працэсу здабывання урану з ракет, яго перапрацоўкі ў паліва для атамных электрастанцый. Да таго ж у свеце існуюць пэўныя квоты гандлю ураnам, якія рэгулююцца двухбаковым расійска-амерыканскім пагадненнем.

**16 студзеня 1994 года ў ходзе кароткачасовага наведвання прэзідэнтам ЗША Б. Клінтанам Кіева было падпісана трохбаковае амерыкана-ўкраінска-расійскае пагадненне, якое датычыць урану. Украіна цяпер мае ўсе правы на атрыманне сваёй долі грашовай кампенсацыі за уран, прычым, які ўтрымліваецца не толькі ў стратэгічных, але і тактычных ракетах. У беларуска-расійскіх перагаворах гэта з'яўляецца пакуль асноўнай перашкодай. Дыялог на гэту тэму з Масквой у апошнія паўтара года адбываецца вельмі вяла, безыніцыятыўна з беларускага боку. Расійскі бок быццам бы згодны падзяліцца грашыма за уран, але выстаўляе сустрэчныя ўмовы: няхай Беларусь перадасць ужо цяпер некалькі дзесяткаў мільёнаў долараў на фінансаванне работ па перапрацоўцы зброевага урану ў сыравіну, прыдатную для мірнага яго выкарыстання.**

Асабліва непрыемна было тое, што расіяне ўтойвалі ад нас тактыка-эканамічныя даныя аб уране ў ракетах, якія знаходзіліся на тэрыторыі Беларусі. Калі Расія зацягвала перагаворы на гэту тэму, я быў вымушаны апеляваць да ЗША. Гутарыў з Д. Бейкерам, неаднаразова сустракаўся з сенатарамі Сэмам Нанам і Рычардам Лугарам у Вашынгтоне (непасрэдна ў кангрэсе) і ў Мінску. Яны аказалі націск на Расію, і толькі дзякуючы гэтаму ўдалося дабіцца пэўнага прагрэсу на перагаворах. Дзіўна, што, падпісаўшы ўпамянёнае вышэй пагадненне ў Кіеве, Б. Клінтан не падпісаў аналагічны дакумент у Мінску ў ходзе тагачаснага візіту. Добра памятаю тую бяссонную ноч з 15 на 16 студзеня 1994 года і вельмі інтэнсіўны трохбаковы дыялог, які вёўся паміж МЗС Беларусі і «камандай» Б. Клінтана, што знаходзілася ў Маскве. Да 5.00 раніцы стала ясна, што амерыканцы па незразумелых прычынах абмяжоўцца толькі агульнай заявай на гэты конт. Па сутнасці, гэты быў адыход ад раней дасягнутых дагаворанасцей паміж беларускім і амерыканскім бакамі.

У верасні 1993 года Расія паспрабавала «вырваць» у Беларусі неіснуючы «уранавы вэксаль», прапанаваўшы за яго кошт пагасіць запазычанасць за пастаўленыя ў Беларусь энерганосьбіты. Не ведаю, выпадкова гэта ці не, але якраз напярэдадні гэтай спробы ў нашай рэспубліцы было напружанае становішча з пастаўкамі паліва, неабходнага для ўборкі ўраджаю. Парадаксальнасць сітуацыі заключалася ў тым, што адмовіцца ад сваёй долі за уран мы павінны за бесцань, прыкладна за 350—400 мільёнаў долараў (прыкладна такой была сума нашай запазычанасці за энерганосьбіты Расіі). У маім асабістым архіве захаваўся запіс аднаго з віцэ-прэм'ераў нашага ўрада, у якім гаворыцца, што Расія, маўляў, спяшаецца (на верасень 1993 года быў намечаны візіт В. С. Чарнамырдзіна ў ЗША) і МЗС Беларусі не варта ўпірацца... У гэтай сітуацыі я адмовіўся фарсіравана Ісці насустрач пажаданням Расіі і «здаваць» нашы пазіцыі.

Ужо пакінуўшы пасаду міністра замежных спраў, працягваю ў рамках неафіцыйнай дыпламатыі весці перагаворы на гэту тэму. У лістападзе мінулага года, у прыватнасці, сустракаўся ў ЗША са старшынёй камісіі па замежных справах кангрэса ЗША Гілманам. Ён даў зразумець, што ЗША не будуць купляць першыя тоны здабытага з ракет урану да таго часу, пакуль Беларусь, Казахстан, Расія і Украіна самі паміж сабой не ўрэгулююць адпаведныя пытанні. На працягу гэтага года з панам Гілманам мы абмяняліся пісьмамі па дадзенай праблеме.

Дзейнічаю выключна з патрыятычных меркаванняў. Не важна, хто будзе знаходзіцца на чале ўлады ў Беларусі, але грошы за уран павінны належаць нашаму народу.

Думаецца, што калі б на ўзроўні вышэйшага палітычнага кіраўніцтва Беларусі была праяўлена воля, то без усякага сумнення, перагаворы з Масквой маглі б пайсці намнога больш паспяхова. На пэўным этапе праблему зброевага урану трэба было б увязаць з комплексам іншых праблем, у вырашэнні якіх зацікаўлена Расія.

Шчыра веру ў тое, што настойлівасць нашага кіраўніцтва і добрая воля кіраўніцтва Расіі прывядуць да кансенсусу наконт гэтага. Бо, зыходзячы з шэрага міжнародна-прававых актаў, логікі развіцця падзей, звязаных з ратыфікацыяй 4 лютага 1993 года нашым парламентам Дагавора СНУ-1, праўда на нашым баку. Мы хочам атрымаць усяго толькі тое, што па праву належыць беларускаму народу.

# Пётр Краўчанка запэўніў: абараняць беларускасць у парламенце будзе каму

**Вядомы ў нашай краіне чалавек, былы міністр замежных спраў Пётр Кузьміч Краўчанка ўпэўнена атрымаў перамогу (за яго прагаласавала, нягледзячы на шалёную контрпрапаганду, 61,2 працэнта выбаршчыкаў у другім туры) на выбарах у Вярхоўную Раду Рэспублікі Беларусь у Маладзечанскай Паўднёва-Заходняй акрузе. Ён даў інтэрв'ю карэспандэнту «Звязды», дзе асабліва адзначыў, што ў часе падрыхтоўчай кампаніі не хаваў ад выбаршчыкаў ні свайго мінулага, ні прыхільнасцей да нацыянальнага Адраджэння. «Калі трэба, — зазначыў ён, — выкарыстоўваў і двухмоўе, але ў асноўным мае перадвыбарчыя сустрэчы праходзілі на беларускай мове». «Ад сваіх адраджэнскіх пазіцый, — сказаў Пётр Краўчанка, — я ніколі не адмаўляўся, я веру ў Беларусь як у суверэнную незалежную дзяржаву, я быў міністрам замежных спраў дзяржавы, а не, прабачце, Паўночна-Заходняй вобласці. Мне вельмі спадабалася, што ўзважаны адраджэнскі падыход у Маладзечне ўспрымаўся нармальна».** На пытанне карэспандэнта, хто будзе цяпер бараніць у Вярхоўнай Радзе беларускую мову, культуру, Пётр Краўчанка запэўніў, што ва ўсякім разе дэпутаты ад Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады будуць выступаць на беларускай мове. А ўвогуле, падкрэсліў ён, мы разлічваем, што сярод незалежных дэпутатаў, сярод прадстаўнікоў іншых партый ёсць свядомыя беларусы, адукаваныя, эрудзіраваныя людзі, якія могуць стаць нашымі патэнцыяльнымі саюзнікамі»...



## Рада Беларускае Народнае Рэспублікі

Прэзыдыюм Рады БНР, разгледзеўшы палітычнае, эканамічнае й культурнае палажэньне ў Беларусі, сьцьвярджае наступныя факты:

Прэзыдэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандар Лукашэнка, які быў выбраны ў чэрвені 1994 году, нелегальна пераймае ўсю ўладу ў свае рукі. Ён поўнасьцю ігнаруе Канстытуцыю, адмаўляецца выконваць пастановы Вярхоўнага Савету і Канстытуцыйнага Суда і кіруе краінай прэзыдэнцкімі ўказамі. На Захадзе за такія парушэньні законаў кіраўніком дзяржавы парлямэнты звычайна выносяць прысуд праз імпічмэнт.

Падчас прэзыдэнцкіх выбараў кандыдат Лукашэнка абяцаў паправіць эканоміку і выкараніць карупцыю. У рэзультаце ні першага ні другога ён ня выканаў. А на справе ён акружыўся дарадчыкамі з расейска-савецкага асяродзьдзя і вядзе палітыку злучэньня Беларусі з Расеяй у сфэры палітычнай, эканамічнай, культурнай і дзяржаўнай бясьпекі. У сфэры палітычнай ён здавіў парлямэнцкую й усю іншую дэмакратычную апазыцыю, адмяніў дэпутацкі імунітэт, узяў пад свой кантроль усе сродкі масавай інфармацыі, не допускае правесьці выбары ў парлямэнт на дэмакратычных прынцыпах і абмяжоўвае правы чалавека праз паліцэйскі кантроль.

У сфэры эканамічнай ён прадаўжае камандную савецкую сыстэму, што давяла эканоміку да поўнага развалу (усе паказчыкі эканамічнай дзейнасьці падаюць), адмаўляецца ўводзіць рынкавыя рэформы, працягвае поўную залежнасьць Беларусі на сыравіну і энэргетыку з Расеі, дазваляе Расеі на бясплатны транзіт, здушыў забастоўкі рабочых саюзаў і забараніў іх дзейнасьць, а змаганьне з карупцыяй вядзе толькі на словах і для палітычнай выгады.

У сфэры дзяржаўнай бясьпекі ён падтрымлівае ваенны саюз з Расеяй і прабываньне расейскіх базаў і ўтрыманьне іх за кошт Беларусі ды супрацьўляецца да супрацоўніцтва з НАТА і наагул з Захадам.

У сфэры культурна-сацыяльнай ён дамогся давесьці расейскую мову да ўзраўня дзяржаўнай, вярнуў бальшавіцкую дзяржаўную сымболіку, адмаўляецца ўжываць беларускую мову пры выконваньні прэзыдэнцкай функцыі, варочае ў школы расейскую мову і савецкія падручнікі, падтрымоўвае існаваньне савецкіх помнікаў, назоваў гарадоў, вуліц і газэт і адзначэньне савецкіх сьвят.

Гэта ўсё паказвае, што цяперашні прэзыдэнт Беларусі ёсьць сапраўдны прадукт савецкай сыстэмы, які ня можа пагадзіцца з дэмакратычнымі прынцыпамі кіраваньня дзяржавай ды рыначнай сыстэмай эканомікі. Ён паставіў сабе за мэту канечне вярнуць Беларусь у Расею ды поўнасьцю аднавіць Савецкі саюз.

Прэзыдыюм Рады БНР востра пратэстуе супроць праводжанай Лукашэнкам палітыкі і прэзыдэнцкага самапраўя і заклікае беларускае грамадзтва як на Бацькаўшчыне так і на эміграцыі востра рэагаваць на такія падзеі. Прэзыдыюм Рады БНР заклікае эміграцыю складаць пратэсты перад урадамі краін яе пражываньня, зьвяртаючы ўвагу на небясьпеку павароту камуна-фашызму ў Беларусі. Калі ня спынім гэтай пагрозы сёньня, заўтра можа быць запозна.

*Прэзыдыюм Рады БНР*

---

(Працяг з 5-й стар.)

конвалі, а не парушалі. Эксперты лічаць патрэбным прыняць цэлы пакет неабходных для развіцця рынку "камерцыйных" законаў.

Ці змогуць нашы парламентары прыняць сучасныя рыначныя законы? Ці зможа прэзідэнт кіравацца ў сваёй дзейнасці імі, а не нейкімі "вышэйшымі інтарэсамі"? Я не схільны лічыць, што многія думаючыя людзі дадуць на гэтыя пытанні станоўчы адказ.

Абавязковая ўмова для выхаду з крызісу і на сусветныя стандарты, на думку экспертаў, — змяненне падатковага заканадаўства, значнае памяншэнне пабораў, якія цяпер перавышаюць 60 працэнтаў. Цяперашнія падаткі, нібы путы, звязваюць вытворцаў і адпужваюць замежных інвестараў.

Але як іх значна знізіць? Як жа тады карміць процьму чыноўнікаў і такія распухлыя сілавыя структуры? Так што ажыццяўленне цалкам і гэтага праекта выклікае сумненне.

Пойдзем далей. Міжнародныя эксперты лічаць, што гандаль з Расіяй у кантэксце мытнага саюзу мае даволі "скажоны характар", бо расійскія цэны ўстаноўлены на карысць расійскіх вытворцаў. І ўжо зусім іх непаразуменне выклікае тои факт, што Беларусь не бярэ плату за транспарціроўку расійскага газу і нафты на Захад. За кошт такой платы можна было б зменшыць свой доўг Расіі і займець так неабходную валюту.

Важнае патрабаванне — павышэнне якасці адукацыі кадраў. Эксперты лічаць, што выкладанне навукі і тэхнікі ў беларускіх ВНУ добрае, чаго нельга сказаць пра правазнаўства, эканоміку, сацыялогію, кіраванне. І ўжо зусім кепска, калі не сказаць болей, вывучаюцца грамадскія навукі і гісторыя чалавецтва.

Ад сябе зазначу, што сучасны спецыяліст-тэхнар павінен выдатна ведаць філасофію, яе асноўныя напрамкі. А ў нас, як вядома, цэніцца толькі марксізм-ленінізм, які ва ўсім свеце не лічыцца адной з галоўных філасофскіх плыняў.

Шмат цікавых праектаў прапанавалі міжнародныя эксперты стратэгічнага прагназіравання — і па рэструктурызацыі прамысловасці, рэгуляванню цэн на энерганосьбіты, вырашэнню праблем беспрацоўя і занятасці. Ажыццяўленне ўсяго комплексу рэкамендаваных мер дазволіць прамысловасці, нарэшце, узбіцца на дарогу прагрэсу. Галоўнае, што ёсць трывалы падмурак для скачка. І будзе вельмі шкада, калі мы ўпусцім чарговы шанц. Хочацца спадзявацца, што з важнымі праектамі азнаёмяцца дэпутаты толькі што выбранага парламента і дадуць ім ход.

**Іван МАКАЛОВІЧ.**

***Дарагія Землякі!*** **Падтрымоўвайце выдавецкі фонд нашае газэты!..**

---

# "ХОЧАЦЦА ВЕРЫЦЬ, ШТО НАШЫ ЛЮДЗІ ПАЧАЛІ ДУМАЦЬ..."

<u>Ніл Гілевіч</u> — у сяброў літаб'яднаньня "ЛІТАРАТАР"

**ЛіМ, 5 студзеня 1996 г**

— У мяне сёння крыху палепшыўся настрой. Учора было трывожна надзвычай, сёння — як бы павесялела на душы. У тым, што адбылося на выбарах, я хачу бачыць нешта больш істотнае, чым проста прыватны факт. Канешне, яшчэ рана гаварыць пра нейкі там перапом ці зрух, аднак жа пачатак нейкага пачатку, думаю, трэба ў гэтым бачыць. Мне здаецца, што нашы людзі пачынаюць думаць. А ўсё добрае, мудрае зыходзіць ад людзей тады, калі яны думаюць. І ўсё дрэннае, нядобрае — калі не. Калі б думалі і асобныя людзі, і народы, тады, відаць, і ўсё чалавецтва пазбегла б вялікіх няшчасцяў, якія здарыліся ў гісторыі. Ну, напрыклад, папярэджваў жа Бісмарк: "Богам прашу, толькі не хадзіце на Расею вайной..." Не, замест таго, каб падумаць і ўважыць перасцярогу, усё-такі пайшлі — пайшлі вайной, і адзін раз, і другі. А вынік...

Дык вось, вяртаючыся ў дзень сённяшні, хочацца верыць, што нашы людзі пачалі думаць. Можа, гэта якраз і ёсць самы пачатак, а далей — далей будзем думаць больш і глыбей. І, можа, цяпер не трэба надта і засмучацца, што ў новы Вярхоўны Савет прайшло шмат дэпутатаў ад партый, якія выступаюць супраць нашай свабоды і незалежнасці, што за чатыры туры выбараў у парламент не прайшоў ніводны прадстаўнік БНФ. Кепска, канешне. Было б непараўнана лепш, каб хаця б некалькі чалавек, хаця б самыя вядомыя франтаўцы сталі дэпутатамі. Але, паўтаруся, не будзем засмучацца, бо сёння самае важнае — не дапусціць дыктатуры аднэй асобы, аўтарытарнай улады. Здаецца, людзі гэта зразумелі, у тым ліку і дэпутаты новага склікання.

Я не ведаю, у якой меры вы цікавіцеся палітыкай — вялікай палітыкай, ад якой сёння залежыць лёс нашай Беларусі, народа нашага, нацыі нашай, а значыць, і літаратуры нашай. Звычайна "маладому з маладою маладое ў галаве", ну а такая ўжо перавага, "прэрагатыва" старых людзей — перш за ўсё думаць пра палітыку, палітыку ў шырокім сэнсе слова: што адбываецца, куды ідзём, што нас можа чакаць і г. д. Палітыка — вельмі складаная рэч. Вы вось можаце спытаць: ну, а чаго ж палезлі ў яе? Паспрабую растлумачыць. Увогуле пазтам лепш не лезці ў палітыку. Маю на ўвазе — непасрэдна ў палітычную дзейнасць. Вершы ці прозу пісаць з палітычнай "падлівай" — гэта натуральна. І ў Пушкіна, і ў Купалы мы знойдзем дзесяткі, сотні вершаў, калі не палітычнай, то ва ўсякім разе грамадзянскай лірыкі. У паэзіі таго ж Купалы перыяду першай рускай рэвалюцыі, усяго наступнага дзесяцігоддзя, перыяду БНР, грамадзянскай вайны — палітычных матываў не абыдзеш. Але гэта вершы, а іншая рэч — трапіць у становішча, калі трэба кожны дзень хадзіць і думаць, што зрабіць, якім чынам зрабіць, каб выстаяць, каб не даць нас растаптаць, зламаць і адкінуць назад, каб хоць яшчэ на адзін маленькі крок прасунуцца наперад у нацыянальным адраджэнні. А гэта ўжо, канешне, палітыка. А дзе палітыка — там барацьба за ўладу, дзе барацьба за ўладу — так ні з чым не лічацца. Будзь ты вельмі паважаны ў народзе чалавек, але тыя, што рвуцца да ўлады, на гэта зважаць не будуць...

У канцы 1988-га я балатаваўся ў Вярхоўны Савет СССР. І недзе на палавіне дарогі я сам сышоў з дыстанцыі. Мне стала невыносна: я на ўласнай скуры адчуў, што значыць укачацца ў бруд палітычнай барацьбы — барацьбы за ўладу. Ну, вось, напрыклад, прыходзіш на перадвыбарчую сустрэчу, і тут пачынаецца. "У меня вопрос: сколько вам лет?" Адказваю. Тады: "А вам не стыдно в таком возрасте претендовать?" Кажу: "Не, не сорамна. Малады ўзрост — гэта вельмі добра, калі збіраешся жаніцца, а дэпутату Вярхоўнага Савета, апрача маладой энергіі, патрэбны жыццёвы вопыт, дасведчанасць, мудрасць, калі хочаце". Падымаецца другі: "Я ничего спрашивать не буду, только скажу. Запомните и десятому закажите: никогда не голосуйте за этого человека! Я приходил однажды в Дом литератора, я слышал, что он говорит!" Разумееце, і ўсё гэта — пырскаючы слінай. Вось тут і задумаешся, што такое палітыка...

Тады, у 88-м, я думаў, што сышоў з дыстанцыі ўжо назаўсёды. Але недзе праз год пачаліся вылучэнні кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР. І вось мае лепшыя сябры пачалі залэўніваць мяне: абавязкова трэба ісці — трэба ісці, каб у беларускім парламенце былі людзі, якія б змагаліся за нашу справу. Гэта ж канец 89-га был: ТБМ працуе, БНФ ужо ўтварыўся, карацей кажучы, прыйшлі спадзяванні, што нарэшце настаў час вялікіх перамен у нашым гістарычным лёсе. І я тады, як кажуць, горка ўсміхнуўся, маўляў, не мінуць мне гэтай долі: трэба ахвяраваць часам, творчасцю — няхай яшчэ паляжаць усякія там задумы празаічныя і паэтычныя, пайду змагацца! Вось так і выйшла, што на цэлых пяць гадоў, нават амаль на шэсць ужо...

Цяпер у нас сітуацыя вельмі неважнецкая. Божа мой, яшчэ два гады таму, калі быў на чале Вярхоўнага Савета Шушкевіч і калі мы ўсе адчулі, што ідзе працэс беларусізацыі, я радаваўся і казаў сам сабе: "Няўжо дажыўся-такі і будзе лёгка паміраць? Няўжо дачакаўся таго, што хацеў убачыць? Няўжо?.." І вось, дачакаўся! Раптам усплываюць нейкія чэрці з балота, і ўсё закруцілася ў другі бок. Ды так закруцілася, што заўтра можа быць яшчэ горш, чым было. Падумаць толькі: цяперашні закон аб мовах, які пакуль існуе, а неўзабаве будзе перарабляцца, быў прыняты яшчэ папярэднім Вярхоўным Саветам — са згоды ЦК КПБ і, зразумела, са згоды ў Маскве. І вось парадокс: камуністы зразумелі, што зайшлі вельмі далёка, што паспяшаліся ў справе дэнацыяналізацыі, што трэба рабіць паслабку (інакш нацыянальная інтэлігенцыя ў кожнай рэспубліцы проста ўзарвецца), — а цяпер людзі, якія знаходзяцца пры ўладзе, гэтага не разумеюць і хочуць задушыць тое, што дазволілі нават камуністы, хочуць перарабіць закон аб мовах у сваіх подлых інтарэсах!

А між тым сітуацыя магла б так і не скласціся. Сёння мы мелі б куды больш выйгрыш, калі б дэмакратычныя сілы былі больш здатнымі да кампрамісу, былі большымі дыпламатамі, а папросту кажучы — больш хітрымі. Я тлумачыў у свой час, гаварыў на першых пасяджэннях аргкамітэта БНФ, і нават у друку тады выступіў, што мы не можам дакладна капіраваць Прыбалтыку, як і не можам рабіць стаўку на антырускую карту, будзем помніць: літоўскі камуніст — перш за ўсё літовец, а тады ўжо камуніст. А ў нас — наадварот. Рэальнасць нашая — зусім не тая, што ў Прыбалтыцы. А таму спярша мы павінны прайсці пераходны перыяд, на які спатрэбіцца, можа, 30 ці ўсе 50 гадоў — ну і хай сабе, у нас вечнасць наперадзе! Але ж затое мы будзем мець верную гарантыю на тое, што памалу-патроху ды прыйдзем да таго ўзроўню нацыянальнай свядомасці, якая ёсць у Літве ці ў Латвіі... Іншая рэч — калі б нам удалося ў свой час адстаяць БНР і пажыць хаця б дваццаць гадоў незалежнымі, тады і мы, канешне, маглі б цяпер усё пачынаць так, як пачалі літоўцы, латышы, эстонцы. Той, хто ідзе ў палітыку, павінен усё гэта разумець, бачыць рэальны стан рэчаў...

Гэта — першае, чым я хацеў з вамі падзяліцца, — каб вы зразумелі, чым я жыву... А каб скончыць першае, я ўсіх вас хачу запытацца: вы ўчора хадзілі галасаваць? Калі хадзілі, то добра зрабілі. Бо сама па сабе лепшая доля ніколі не прыйдзе. Ну, а як не прыйдзе лепшая доля, што ж тады будзе з намі і з літаратурай нашай?!

Цяпер — другое. Як бы ні было нам сёння цяжка і горка, што б нас ні чакала яшчэ наперадзе, але, на злосць усім душыцелям беларушчыны, я хачу выказаць сваю радасць — радасць за ваш часопіс, за вашыя творы, за вас саміх. Гэта ж жніо пяць пакаленняў увайшло ў літаратуру за маёй памяццю (калі лічыць так: кожныя дзесяць гадоў — адно пакаленне), і ніколі, ніколі не было нічога падобнага, ніколі яшчэ дагэтуль маладыя таленты не ішлі так густа ў літаратуру. Дзесяткамі, сотнямі! І прычым — невыпадковыя людзі. Усяго 17 ці 18 гадоў — і з такой упэўненасцю пачынаць, падаваць свой голас! З такой вершатворнай культурай! Я вось пагартаю "Першацвет", пачытаю, пагляджу — дый кажу сабе ў паўголаса: а вось, скулу вам, спадары-нядобразычліўцы! Калі столькі маладзі, гэта значыць, нацыянальна свядомай інтэлігенцыі, людзей-творцаў ідзе ў літаратуру — то не задушыце вы нас, як бы ні стараліся! Ад гэтага — і радасна. І вы

(Далей, на наступнай бачыне)

ведаеце, што гэта ж не проста так, гэтаму ж ёсць тлумачэнне нейкае. Можа быць, я з ходу і не растлумачу, чаму і адкуль, як грыбы пасля дажджу... Але ўсё-такі я хацеў бы звязаць гэты феномен, феномен "Першацвета", з тым, што пачалося дзесяць гадоў таму: з перабудовай, з рухам за нацыянальнае адраджэнне, з беларусізацыяй. Відаць, усё гэта спрычынілася. Калі ў школе настаўнік пачынае гаварыць вучням усю праўду пра лёс, культуру, гісторыю нашага народа, чытаць вершы, якія раней былі забароненыя, — такое бясследна не праходзіць. Гэта ж толькі цяпер мы пачынаем адкрываць дзесяткі выдатных імёнаў: Гарун, Ластоўскі, Геніюш... Ды і Купалу пачынаем чытаць нанова! Я, напрыклад, не мог у вашым узросце пачытаць добрую сотню бадай ці не самых лепшых Купалавых твораў. Толькі ўжо будучы аспірантам, маючы доступ да архіваў, змог пазнаёміцца з імі. Дык я — прафесіянал-філолаг. А што казаць пра масавага чытача?.. Не памылюся, калі скажу: вы прыходзіце ў літаратуру ў шчаслівы час. Я не думаю і зусім не хачу думаць, што паўторыцца нешта такое, як ужо было гэта ў трыццатыя гады. Час не той, свет вакол не той, дый у нейкую гістарычную справядлівасць я ўсё ж веру. Мне здаецца, што не маюць рацыі тыя, хто кажа: надта лёгка нам далася незалежнасць, трэба за яе ўсё-такі плаціць. З гэтым не магу пагадзіцца. Як падумаеш пра наш лёс, дык хіба можна сказаць, што танна нам каштавала наша незалежнасць? Хіба яна далася нам малою цаной?! Давайце ўдумаемся: у 1936 годзе ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі было каля 100 чалавек, а ў канцы 38-га — усяго 12. У маладым яшчэ ўзросце загінулі Хадыка, Маракоў, Зарэцкі, Калюга, Каваль, Мікуліч... А што кожны з іх мог бы зрабіць у літаратуры!.. Гэтак жа выразалі і тэатральную нашу інтэлігенцыю, і мастакоў, і кампазітараў. А што значыць вывезці сотні тысяч лепшых людзей беларускай вёскі ў час калектывізацыі? Не басякоў ды п'яніц, а самых руплівых, працавітых, разумных гаспадароў! Іх называлі кулакамі, серадняками, падкулачнікамі, а гэта былі проста лепшыя, найбольш культурныя сяляне, якія выпісвалі агранамічную літаратуру, газеты чыталі, дзяцей вучылі гаспадарыць. І вы ўдумайцеся толькі: Паўлікі Марозавы, замест таго, каб шкадаваць і плакаць, што вывозяць на змор-пагібель добрых людзей за нішто, беглі ўслед і радаваліся. А чаму? Таму што ім паспелі ўжо закінуць д'ябла ў дзіцячыя душы: маўляў, вось і добра, іх выселяць, а мы пабяром іхняе ўсё... Гэтак жа і ў 17-м было. Забіралі, цягнулі з панскіх маёнткаў дываны, ложкі, посуд. Ну ды гэта ладна. А бібліятэкі? — у кожным жа маёнтку была бібліятэка, дзе, можа, захоўваліся рарытэты, якім і цаны няма! А іх — на падпал, у печ, на самакруткі!..

Гэта ўсё — да пытання аб нашай культуры і нашай незалежнасці. Без культуры апошняе не будзе. І тое, што маладая інтэлігенцыя ў нас становіцца ўсё больш нацыянальна свядомай, на схіле гадоў мяне вельмі радуе. Сёння ідзе самы сапраўдны наступ на культуру. Што ж, значыць трэба супрацьстаяць. А самая лепшая форма супраціўлення — гэта тварыць добрыя, таленавітыя рэчы. Калі будуць з'яўляцца выдатныя кнігі, спектаклі, песні, скульптуры, архітэктурныя збудаванні, і ўсё гэта будзе прызнаваць свет, — цяжэй будзе расправіцца з намі. Слынны таленавітасцю народ знішчыць немагчыма.

**— Ніл Сымонавіч, вы кажаце: "народ", — і, напэўна, усё ж такі верыце ў народ. Але ці не падаецца вам, што менавіта ў гэтым і крыецца памылка нашай інтэлігенцыі — былой і сучаснай? Ці не думаеце вы, што наіўнасць нашай інтэлігенцыі ўстаўленні да народа адно перашкаджае ёй у яе ж памкненнях?**

— Пытанне не з простых. Сапраўды, наша інтэлігенцыя была доўгі час у стане наіўнасці. Больш таго, яна і ёсць такая — наіўная, мяккая, даверлівая. Можна гэта і па-іншаму назваць, але тое, што ў нашым беларускім характары такія рысы ёсць, — несумненна. Гэта — наш гістарычны набытак, менталітэт нашага народа. Таму і нядзіўна, што і нацыянальна свядомая інтэлігенцыя, якая ёсць часцінка народа, гэткая ж па сваім характарах, як і сам — **беларускі** — народ. Вы ж паглядзіце, з каго наша новая літаратура пачыналася, адкуль наша інтэлігенцыя выходзіла. З самых нізоў выходзіла. Нават калі хто і меў тытул шляхціца, то які гэта быў шляхціц? Найчасцей — засцянковы... У свой час такой жа сялянскай у сваёй масе была балгарская інтэлігенцыя, але, напрыклад, пра Польшчу ці Чэхію гэтага не скажаш. Вы лічыце, што наша інтэлігенцыя не хацела і не хоча бачыць, што народ наш цёмны і забіты? Але ж якраз бачыла і бачыць! Багдановіч яшчэ восемдзесят гадоў назад напісаў: "Народ, Беларускі Народ! Ты — цёмны, сляпы, быццам крот".

Галоўную прычыну нашых бед, думаю, трэба бачыць у тым, што з нас непараўнана ў большай меры, чым з каго, выбівалі і выбілі пачуццё нацыянальнай годнасці. І што ж дзівіцца, што народ цёмны, калі нават дэпутаты парламента прагаласавалі вясной за рэферэндум, а значыць, за тое, каб адмяніць нацыянальную сімволіку, устанавіць дзве дзяржаўныя мовы. Якая ж у іх свядомасць — нацыянальная? Патрыятычная? Ці вось яшчэ: нідзе ў былым СССР, апрача як у Беларусі, не было такога, каб на чале дзяржавы стаялі людзі, якія, хоць і карэннага паходжання, а не могуць гаварыць на мове свайго народа. Вось вам сведчанне таго, як у нас далёка зайшлоў сэнсе нацыянальнага нігілізму. Мы ўвесь час скасабочвалі погляд на гісторыю — глядзелі толькі ў адзін бок. Адно пачынаем разумець, адкуль ішло самае для нас страшнае... Таму, што датычыць сучаснай нашай інтэлігенцыі, думаю, яна ж не ўраджай стагоддзяў, ураджай страшэннага ўціску. Спатрэбіцца, як я ўжо казаў, яшчэ многа-многа часу, каб наша свядомая інтэлігенцыя змагла апрацаваць душу народа, перарабіць яе на беларускі лад, вярнуць народу пачуццё яго нацыянальнай годнасці...

(Працяг глядзі ў наступным № газэты)

## Быць нам ці не быць?

Беларусь траціць людзей. Да 2000 года нас застанецца 10 мільёнаў. Калі смяротнасць захавае цяперашнюю тэндэнцыю да росту, у 2105 годзе тэрыторыя рэспублікі апусцее. Так лічыць прэзідэнт Рэспубліканскага фонду аховы жыцця ля яго вытокаў і генетычнага кода народу "Выратаванне дзяцей", заслужаны дзеяч навукі, акадэмік Міжнароднай акадэміі экалогіі, прафесар М.Д.Цяўлоўскі.

У анколагаў таксама сумныя прагнозы: калі не вырашым асноўныя экалагічныя праблемы, да 2000 года кожны другі жыхар Беларусі будзе пакутаваць ад анкалагічных захворванняў.

Сярод першарадных праектаў Фонду аховы жыцця — стварэнне ў рэспубліцы дамоў для мацярок-адзіночак, вядзенне работы, накіраванай на скарачэнне абортаў, падрыхтоўка ў кантакце з міжнароднай арганізацыяй "Хьюман лайф інтэрнэшнл" чарговага міжнароднага кангрэса па праблемах дзяцей і сям'і ў Мінску.

Нягледзячы на мноства прыродаахоўных арганізацый у свеце, цэлым шэрагам экалагічных праблем, ад якіх залежаць жыццё і здароўе нашых дзяцей, сёння ніхто не займаецца. Вось толькі адна з іх: у Балтыйскім моры затоплены дзесяткі тысяч тон атрутных рэчываў у кантэйнерах. Калі кантэйнеры праржавеюць, наступствы стануць катастрафічнымі для ўсёй планеты: 1 міліграм іпрыту (атрутны гарчычны газ) здольны так пашкодзіць генную сістэму чалавека, што вынікі будуць адчуваць пяць пакаленняў яго нашчадкаў.

Ірына ДЗЯРГАЧ






*Мал. Я. Бусла*

## *Нам пішуць... Нас пытаюць...*

Добры дзень Сп. Прускі!

Хачу павіншаваць Вас з надыходзячым Новым Годам і Калядамі. Жадаю моцнага здароўя, шчасьця, посьпехаў і спрыяньня ў жыцьці. Высылаю ахвяру на падтрымку газэты. З гэтае сумы пэўная частка, гэта ахвяра ад Сп. Ф. П... Падаю ягоны адрас... Усяго Вам найлепшага. Бывайце здаровы. С. К.

*Дзякуем. Усяго найлепшага.*

Паважаная Рэдакцыя "Б. Д."

Дзякую за рэгулярную дасылку газэты. Перасылаю ахвяру на выдавецкі фонд. З нагоды Новага Году жадаю Вам добрага здароўя і як найбольшых посьпехаў у Вашай нацыянальна-карыснай працы.

З пашанай да Вас. Я. Ш.

*Мы таксама дзякуем і жадаем усяго найлепшага.*

Паважаны Сп. Прускі!

Шчыра дзякую за газэту "Беларускі Дайджэст". Газэта добрая. Чытаю зь вялікім зацікаўленьнем.

Перасылаю ахвяру на газэту...

Жадаю Вам у Новым Годзе добрага здароўя ды плённай працы ў Вашай прафэсіі.

З пашанай, О. Г.

*Прыемна хоць некалькі слоў пачуць ад даўно знаёмае асобы. Дзякуем. Усяго найлепшага.*

Шаноўны Спадар Прускі!

Вялікі дзякуй за тое, што ўжо больш за паўгода дасылаеце мне Вашу цікавую газэту. Жадаю і надалей посьпехаў у выдавецкай справе. Высылаю ахвяру...

Жадаю плёну ў Новым Годзе. Дарэчы, мой адрас зьмяніўся... Яшчэ раз з найлепшымі пажаданьнямі А. У.

*Шчыра дзякуем за ўсё... Усяго найлепшага.*

Паважаны Сп. Мікола!

Вельмі дзякую за газэту, якая прыходзіць заўсёды на час. Таксама жадаю Табе шмат добрага здароўя і плоднае працы на бягучы 1996 год. Залучаю ахвяру... Пашчасьліў Божа!

З пашанай, Г. С.

*З падзякаю жадаем усяго найлепшага.*

Вельмі Паважаны Сп. Прускі!

Вельмі дзякую за рэгулярна прысыланы мне "Беларускі Дайджэст", які я чытаю, як заўсёды, "ад доскі да доскі". Друкаваныя цікавыя матэрыялы добра адлюстроўваюць жудасную сытуацыю на Бацькаўшчыне. Прэзыдэнт Лукашэнка, з ягонымі паплечнікамі, вядзе выразную антыбеларускую палітыку, ды нахабна пхае запалоханы і абдурманены народ у маскоўскую імпэрыю, абяцаючы дабрабыт і шчасьце. Якая пародыя! Мы добра ведаем куды гэта вядзе. Цяпер, калі ўсходняе граніцы з Расеяй няма, дык у незабаве можна будзе ўсіх апанэнтаў-"ворагаў народу" адразу простай дарогай у Сібір!.. Страх падумаць...

Залучаю ахвяру... і жадаю найлепшых посьпехаў ў выдавецкай працы. З пашанай, У. Н.

*Сапраўды на Бацькаўшчыне жыцьцё вельмі складанае, і для нас на Захадзе незразумелае... І Вам таксама ўсяго найлепшага.*

Вельмі шаноўны Спадар Мікола!

Віншую Вас і Вашу сямейку з Праваслаўнымі Калядамі і Новым 1996 Годам. Ад шчырага сэрца жадаю Вам здароўя і памыснай працы на ніве адраджэньня нашай Беларусі. Хай дае Бог Вам усяго найлепшага...

А цяпер пра нашу газэту "Беларускі Дайджэст"... Газэтаю тут цікавіцца якіх 5 чалавек, а іншыя ў большасьці гэта людзі не адукаваныя... Далучаю ахвяру... З пашанай да Вас і Вашых сымпатыкаў... Жыве Беларусь! П. Г.

*Ваша шчырасьць сапраўды адважная, але праўда заўсёды будзе праўдаю і іншы раз пра гэта трэба гаварыць... Жадаем Вам усяго найлепшага.*

Вельмі Паважаны Спадару Н. Прускі!

Мы атрымалі перад сьвятамі па новым стылю 2 № "Беларускага Дайжэсту". Вельмі ўзрадаваліся, што так хуценька прыйшоў на наш новы адрас. Шчыра дзякуем.

Вельмі многа цікавага чытаньня ў гэтых навенькіх, чысьценькіх газэтах. Падабалася нам знайсьці на ягонай старонцы каляндар на 1996 год... Добры і прыгожы пераклад з царкоўна-славянскай мовы нашых праваслаўных Раджэсьцьвенскіх гімнаў, цяплом ахінуў нашае сэрца... Бывайце здаровы!

З пашанаю да Вас, А. А./Г. С.

*За шчырыя і прыгожыя словы ды за ахвяру дзякуем.*

Вельмі Паважаны Сп. Прускі!

Прашу прабачэньня, што спазьніўся з ахвярай на так прыгожую і цікавую газэту. Такая газэта нам вельмі патрэбная, асабліва ў час такіх перамен на нашай Бацькаўшчыне. З вялікай пашанай.

Жыве Беларусь! Ваш, П. Н.

*Дзякуем за ахвяру і просім знаходзіць нам новых чытачоў. Разбудова газэты залежыць ад нас усіх.*

<u>УВАГА!!! Паважаныя Чытачы нашае газэты!</u>

У мінулым годзе мы разаслалі напамін-просьбу з двума пытаньнямі адносна нашае газэты. Дасюль 70% адгукнулася. Ветліва просім адгукнуцца ўсіх іншых. Гэта дапаможа нам у нашай выдавецкай дзейнасьці. Дзякуем!